PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 13 (2133) Год XLII Беласток 30 сакавіка 1997 г. Цана 1 зл.


Канцэрт у Радаме.

## Вучацца рэгенты

Усе яны або кіруюць прыхадскімі хорамі, або, прынамсі, спяваюць у іх. Тым не менш, палічылі, што ім самім трэба яшчэ падвучыцца. Дзеля гэтага даязджаюць з Бельска, Беластока, Заблудава, іншых мясцовасцей у Гайнаўку, у Праваслаўную школу псаломшчыкаў. Напачатак было іх дваццаць тры асобы, цяпер — семнаццаць, але ўпэўненых, што застануцца да канца. Сярод іх ёсць нават адна дзяўчына з Галандыі.

Школа была створана 16 верасня мінулага года дэкрэтам мітрапаліта Варшаўскага і ўсяе Польшчы Васілія. Прызначана яна для абсальвентаў сярэдніх школ (матура), заняткі распланаваны на два гады. Прыдумаў школу, напісаў статут, а цяпер з'яўляецца яе кіраўніком айцец дэкан Міхал Негярэвіч:

— Калі радзілася ідэя Фестывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы, я думаў, што будзе ён падымаць музычнае мастацтва ў нашых прыходах. Але фестываль дасягнуў вельмі высокага ўзроўню, прыязджаюць на яго прафесійныя хоры з Польшчы і замежжа, а для нашых прыхадскіх пеўчых ён, проста, занадта „святовы". Таму хачу, каб менавіта гэтая школа выпаўняла адукацыйную ролю, перш за ўсё, для тутэйшага праваслаўнага грамадства.

Заняткі вядуцца ў прыхадскім будынку Свята-Троіцкага сабора па пятніцах — ад трэцяй пасля поўдня да восьмай вечара — і суботах — ад восьмай раніцы да чацвёртай. Па нядзелях — практыка ў царкве. Са студэнтамі займаюцца, апрача айца Міхала Негярэвіча (музычны практыкум і танальны спеў), яшчэ чатыры выкладчыкі: айцы благачынныя Юры Такарэўскі з Бельска (царкоўны ўстаў і старацаркоўнаславянская мова) і Мікалай Келбашэўскі з Кляшчэль (літургіка), айцец ігумен Варсанофій (Дарашкевіч) з Варшавы (сімволіка літургічных тэкстаў) і магістр Анна Сідарук з Гайнаўкі (сальфеджыо і інтанацыя, тэорыя спеву).

Анна Сідарук скончыла тры факультэты: музычнае выхаванне ў Вышэйшай педагагічнай школе ў Ольштыне, Пецярбургскую кансерваторыю і дырыгентуру ў Варшаўскай музычнай акадэміі (з узнагародай). 8 сакавіка студэнты вучацца пад яе вокам тэорыі, пазнаюць трохгучы, кварты і басовую гаму. Спяваюць розныя варыянты „Свете тихий", бясконца паўтараюць, каб атрымалася абсалютная зладжанасць галасоў, поўная гармонія і глыбіня спеву. Настаўніца паказвае таксама, як заспяваць гэтае самае працей, напрыклад у вясковай царкве, дзе не заўсёды ёсць адпаведныя галасы.

— Пані Аня, гэта наш найбольшы музычны спецыяліст, — кажа а. Міхал. — Я іх рыхтую больш практычна: задаваць тон, ведаць правільныя мануальныя рухі. Мушу сказаць, што нашы студэнты многаму ўжо навучыліся. Апрача гэтага мы стварылі добры хор, які даў ужо два канцэрты, у Гайнаўцы і Радаме. Гэты другі прайшоў у касцёле Маці Божай Міласэрнасці на заканчэнне тыдня малітвы аб адзінстве хрысціян і ўвесь даход з яго пайшоў на дом сацыяльнай дапамогі. Выступалі мы там побач славутай спявачкі Віялеты Вілас. Канцэрт трансляваўся па Радыё Марыя — прыслалі мне гэтую перадачу на касеце — наш хор атрымаў станоўчыя ацэнкі, а пры нагодзе пайшла інфармацыя аб праваслаўі, аб багацці царкоўнага спеву.

Сёлета школа праводзіць другі набор студэнтаў. Кандыдатам можа стаць кожны адораны добрым музычным слыхам, з сярэдняй адукацыяй, да саракавога года жыцця. Набытыя ў нашай школе веды дазволяць не толькі весці царкоўны хор, але і навучаць музыкі ў школе. Расклад заняткаў такі, што паралельна можна працаваць або вучыцца ў іншым месцы. Адна дзяўчына цяпер, напрыклад, штудзіруе ў Варшаве нямецкую філалогію, а па ўік-эндах займаецца ў школе псаломшчыкаў.

— У нас ёсць планы развіцця школы, — гаворыць а. Міхал Негярэвіч. — Думаю, што неўзабаве атрымаем дзяржаўную ліцэнзію, што значна павысіць наш ранг. Кожная, аднак, ініцыятыва, хай сабе самая сціплая, патрабуе сродкаў. Хачу я тут звярнуцца да нашых людзей аб духоўнай і матэрыяльнай падтрымцы, бо школа псаломшчыкаў, гэта агульная справа нас усіх. Да гэтай пары памаглі нам: Гмінная ўправа ў Гайнаўцы, тутэйшыя прадпрыемствы „Furnel" і „Nikom", Bank Wschodni з Беластока і Прадпрыемства будаўнічай керамікі з Ляўкова. Карыстаючыся нагодай, шчыра дзякую ўсім нашым ахвярадаўцам.

**Мікола ВАЎРАНЮК**

P.S. Заявы з біяграфіяй і двума здымкамі можна прысылаць да 30 чэрвеня на адрас: Prawosławne Studium Psalmistów w Hajnówce, 17-200 Hajnówka, ul. Ks. Dziewiatowskiego 15.

Падрабязныя інфармацыі можна атрымаць па тэлефоне (0-835) 28-19, або асабіста ў прыхадской канцылярыі.

## Запаведнікам Беларусі пагражае небяспека знікнення

Язэп Грацэўскі

Цяперашнюю агульную сітуацыю ў Беларусі можна назваць застоем, дэградацыяй, адкатам назад. Гэта можна пабачыць на вуліцах сталіцы і ў сельскай глыбінцы, палітычным, грамадскім і духоўным жыцці, разважаннях простых людзей і палітычных лідэраў; прафесіянальнай падрыхтоўцы, на працы, у быце. Застой назіраецца таксама ўва ўсіх сферах жыцця краіны, у тым ліку і ў дзялянцы аховы прыроды і запаведніцкай справы.

З пачаткам „перабудовы" ў гэтай сферы адбыліся вялікія змены і паляпшэнні. Замест партыйных функцыянераў на кіруючыя пасады ў запаведніках і міністэрствах былі накіраваны сапраўдныя спецыялісты: лесаводы, біёлагі, эколагі. Скончыліся знішчаючыя ўсё жывое „царскія паляванні". Выйшла ў свет вельмі вартаснае выданне ***Чырвоная Кніга Рэспублікі Беларусь: рэдкія і тыя што знаходзяцца пад пагрозай знікнення віды жывёл і раслін.*** Было распрацавана шмат важных рэкамендацый для ўрада адносна прыродаахоўных праектаў. Быў прыняты „Закон аб асабліва ахоўных тэрыторыях". Наметіліся вялікія станоўчыя змены ў справах аховы прыроды ў нашых запаведніках. Дзяржаўная запаведна-паляўнічая гаспадарка „Белавежская пушча" стала Нацыянальным паркам, які атрымаў ад ЮНЕСКА статус біясфернага запаведніка, і які быў занесены ў лісту аб'ектаў „Сусветнай спадчыны".

Прыродаахоўная дзейнасць у Рэспубліцы была накіравана на дасягненне міжнароднага ўзроўню. Беларускія запаведнікі былі прызнаны шэрагам міжнародных арганізацый; устанавіліся сяброўскія сувязі і супрацоўніцтва спецыялістаў. Бярэзінскі біясферны запаведнік і Нацыянальны парк „Белавежская пушча" атрымалі ад Еўрапейскага Парламента ў Страсбургу дыпломы Еўрапейскага запаведніка і былі занесены ў спіс Рэзерватаў біягене-

[працяг ☞ 5]

***Чытачам „Нівы", якія Вялікдзень адзначаюць у днях 30–31 сакавіка, жадаем радасных і спакойных Святаў.***

**Рэдакцыя**

# Мы прачыталі

*Pojawienie się pierwszego magazynu poświęconego mniejszościom narodowym w białostockiej telewizji potwierdziło większość wątpliwości i obaw wysuwanych pod adresem kierownictwa ośrodka. Przede wszystkim rzuciły się w oczy ogromne dysproporcje między możliwościami prezentacji trzech przedstawionych mniejszości: białoruskiej, ukraińskiej i romskiej. Właśnie tylko Białorusini zaprezentowali się jako społeczność uczestnicząca w życiu kulturalnym i politycznym Białostocczyzny. Tylko oni przedstawili materiał na przyzwoitym poziomie: zróżnicowana tematyka, najsprawniejsza realizacja, własna prezenterka. Aspirującym do drugiego miejsca pod względem liczebności i znaczenia Ukraińcom nie udało się wykazać swojej aktywności na terenie Białostocczyzny. Lwia część ich prezentacji upłynęła na rozmowie z dyrygentką z Kijowa oraz emisji materiałów zrealizowanych przez telewizje z Toronto i Kijowa. Podobnie część magazynu poświęcona mniejszości cygańskiej ograniczyła się do zakomunikowania, że istnieją. Taka formuła magazynu mniejszościowego zachęca ambitne mniejszości, ale pozbawione możliwości intelektualnych do robienia programów na siłę, wykorzystywania materiałów propagandowych robionych za granicą. Natomiast Białorusini, którzy dysponują większymi możliwościami prezentacji własnego dorobku, zmuszeni są do równania w dół do średniego poziomu.*

*Kurier Poranny, nr 58*

* * *

*Trybynał Praw Zwierząt w Genewie uznał Polskę — obok Grecji i Hiszpanii — za kraj największych okrutników. PSL nie chce nowelizacji prawa o ochronie zwierząt i uważa, że odwoływanie się do uczuć humanitarnych zagrażać może rolniczym portfelom. SLD nie chce zadzierać z koalicjantem i do pracy w komisjach Sojusz oddelegował posłów, których stosunek do zwierząt nie sposób określić jako cywilizowany. Przy pracy nad tą ustawą objawił się potworny prymitywizm posłów. Ustawa, którą przygotowują nie zakazuje nawet hyclerstwa, zabronionego w Polsce nawet w latach pięćdziesiątych.*

*Sprawa intensywnego tuczu gęsi i kaczek urosła niemal do rangi symbolu tej ustawy. Przez wiele dni ptaki są przymusowo karmione przy pomocy matalowej rury wpychanej do przełyku. Ich wątroba rozrasta się do monstrualnych rozmiarów, uciskając płuca, serce i inne narządy wewnętrzne. Przed ubojem ptaki są w stanie agonalnym. Wiele z nich pada, niektóre popełniają samobójstwa, tłukąc z bólu łbem o ściany. Podobnie sadystyczne metody wymyślono dla intensywnego tuczu świń, cieląt, brojlerów. Wizyta w polskiej rzeźni może nawet ze średniowrażliwego człowieka zrobić wegetarianina. Na wsi ubój odbywa się w obecności dzieci. Cała rodzina trzyma świnię, a tato tłucze siekierą.*

*Polityka, nr 11*

* * *

*Na gdańskim wysypisku śmieci znaleziono autobiograficzną książkę Borysa Jelcyna „Zapiski prezydenta” z odręczną dedykacją autora dla Lecha Wałęsy. Oprócz książki Jelcyna znaleziono także 5 innych, dedykowanych Wałęsie przez „mniej znaczące osobistości”. Prawdopodobnie książki znalazły się na śmietnisku w związku z przeprowadzką Wałęsy do nowego domu.*

*Kurier Poranny, nr 55*

* * *

*Lech Wałęsa został mianowany profesorem na Uniwersytecie w Seulu. Będzie tam wykładał zagadnienia dotyczące stosunków pracy.*

*Gazeta Wyborcza, nr 56*

* * *

*Złe duchy z czasów Chrystusa działały metodą chałupniczą. Szatan stosował swoją inteligencję do poziomu cywilizacyjnego, dziś zręcznie posługuje się komputerami, mass mediami i reklamą. Nadto urabia opinię: bądźcie tolerancyjni, bądźcie otwarci, dziś trzeba być postępowym,* — сказаў прымас Польшчы Юзэф Глемп.

*Słowo, nr 58*

* * *

*Аляксандр Лукашэнка наведаў галоўную кузню эканамічных кадраў краіны — Дзяржаўны эканамічны універсітэт. Галоўнай мэтай візіту стала размова з кіраўніцтвам універсітэта. Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што не з'яўляецца прыхільнікам рыначных пераўтварэнняў. Дзяржава будзе па-ранейшаму кантраляваць усе працэсы, у тым ліку і ў эканоміцы. На думку Прэзідэнта трэба вярнуцца да станоўчага вопыту папярэдніх гадоў. Кіраўнік дзяржавы даволі рэзка выказаўся аб дзеяннях апазіцыі, якая прыцягвае для сваіх акцый моладзь. Востра было пастаўленае Прэзідэнтам пытанне аб стварэнні ў краіне патрыятычнага маладзёжнага руху.*

*Звязда, н-р 38*

Не верым, што ў Рэспубліцы Беларусь няма каму рэанімаваць камсамол. Але, калі там ёсць такія цяжкасці, раім Прэзідэнту шукаць кадраў на Беласточчыне. У нас традыцыі гэтага руху надта жывыя.

* * *

*Беларускі народ смуткуе ў сувязі са смерцю Дэн Сяопіна.*

*Народная газета, н-р 41*

Мы спачуваем беларускаму народу ў Рэспубліцы Беларусь у сувязі са смуткам. Ваш смутак — гэта і наш смутак. Але чорт з панам Дэн Сяопінам. Такіх асобеняў яшчэ шмат апаганьвае нашу планету.

# З мінулага тыдня

**Сейм** на працягу бліжэйшых двух месяцаў абмяркуе праект закона аб стварэнні ў Беластоку самастойнага універсітэта, — паведаміў беластоцкі ваявода **Анджэй Гаеўскі**. Паводле рэктара Філіяла Варшаўскага універсітэта праф. **Адама Ямроза** да канца сакавіка вучэльня выканае пастаўленыя перад ёю патрабаванні. Будзе яна мець права прысвойваць доктарскія званні ў шасці спецыяльнасцях і габілітацыйныя — у дзвюх.

**Гадавая нарада капеланаў і працаўнікоў Праваслаўнага ардынарыята Войска Польскага** адбылася ў Беластоку пад кіраўніцтвам ген. архіепіскапа **Савы**. У Праваслаўным ардынарыяце ВП працуюць 20 святароў у шасці благачыннях у вайсковых акругах, ваеннай авіяцыі і ваенна-марскім флоце. Ардынарыят налічвае шэсць вайсковых прыходаў: у Беластоку, Варшаве, Гданьску, Вроцлаве, Цехацінку і Пярэмышлі, два прыходы ў Надвіслянскіх часцях і два прыходы ў Гранічнай ахове. У Ардынарыяце працуюць шэсць псаломшчыкаў.

**Тэлебачанне** штораз больш становіцца партыйным, — лічыць пасол **Артур Смулка** з Уніі працы. Гэтая партыя ад нейкага часу вядзе маніторынг публічнага тэлебачання. Няроўны доступ да тэлебачання, паводле яго, найбольш рэзка бачны ў публіцыстычных праграмах, да ўдзелу ў якіх некаторыя палітычныя плыні не запрашаюцца.

**Ваяводская пракуратура ў Беластоку** ўзбудзіла следства супраць двух мытнікаў з пагранічнага перахода ў Кузніцы-Беластоцкай, якія абвінавачваюцца ў хабарніцтве. Затрыманне несумленных кантралёраў было магчымае дзякуючы матэрыялам пракуратуры Рэспублікі Беларусь. З дакументаў беларускага боку вынікае, што кузніцкія мытнікі атрымлівалі грошы ад беларускіх калег з пагранперахода ў Брузгах за сімуляваны кантроль аўтамашын з гарэлкай і папяросамі без акцызных марак.

**У Бабаўняным камбінаце „Фасты”** сёлета плануецца звольніць 650 работнікаў — чвэрць працоўнага калектыву. У першую чаргу адыдуць людзі ў пенсіённым узросце. Далейшы лёс камбіната абумоўлены вынікамі рэструктурызацыі і магчымасцю атрымання банкаўскага крэдыту.

**Свет — адзін для ўсіх! Стоп расізму!** — пад такім лозунгам каля сотні вучняў сярэдніх школ і студэнтаў дэманстравалі ў Беластоку супраць праяваў нецалерантнасці, росту агрэсіі і насілля. Дэманстранты прайшлі галоўнымі вуліцамі горада, раздаючы прахожым лістоўкі, у якіх пісалася: „Баімся вяртання фашызму, выказваем пратэст супраць агрэсіі, якой падвяргаюцца людзі іншага колеру скуры або іншай прычоскі. Уся сіла фашызму абапіраецца на нашай няздольнасці да самаарганізаванасці. Давайце яднацца, бо неўзабаве нацыяналісты і нацысты пачнуць нам арганізаваць жыццё”. Лістоўкі падпісала Радыкальная антыфашысцкая акцыя.

**У Белавежскай пушчы** праводзіўся перападлік лясной жывёлы, перш за ўсё аленяў, зуброў, казуль, дзікоў, лісоў, зайцаў, ваўкоў і ласёў. Гэтай своеасаблівай бухгалтэрыяй займаліся лясная адміністрацыя, Даследчы інстытут лесаводства і вучні Ляснога тэхнікума ў Белавежы.

**У Бельску-Падляшскім** да гэтай пары зарэгістравана дзевяць ананімных званкоў аб падкінутых бомбах (восем разоў у школах і раз у касцёле). Апошні тэлефон у Пачатковую школу № 2 выканала 16-гадовая дзяўчына. Паліцыя злавіла яе ў тэлефоннай будцы, калі хацела патэлефанаваць другі раз. Дзяўчына нідзе не вучыцца і тэлефанавала дзеля забавы.

## Неўзабаве ў „Ніве”

- Як беларусы адзначалі 25 Сакавіка.
- Пра змаганне мытнікаў з кантрабандыстамі на беларуска-польскай мяжы — піша Кастусь Млынарскі.
- Пра першы дзень вясны ў Орлі — піша Міхал Мінцэвіч.

# Весткі з Беларусі

**Арыштаванне Хадыкі**

14 сакавіка вечарам завяршыўся 5-гадзінны судовы працэс над Юрыем Хадыкам — намеснікам старшыні Беларускага народнага фронту. Адзін з лідэраў апазіцыі быў прыгавораны да пяці дзён арышту за непаслушэнства да міліцыянтаў у ходзе выконвання імі службовых абавязкаў. Хадыка быў затрыманы дзень раней у сядзібе БНФ, у якую ўварвалася міліцыя для правядзення вобыску, хаця не мела на гэта пракурорскага дазволу. Паводле міліцыі, лідэр БНФ падрыхтоўваў запланаваную на 15 сакавіка вулічную антыпрэзідэнцкую дэманстрацыю. Хадыку затрымалі людзі ў штацкім і яны абвінавачвалі яго на працэсе.

**Дэманстрацыі ў Менску**

14 сакавіка ў рамках акцыі „Беларусь у Еўропу” на вуліцы выйшла сталічная моладзь. Міліцыя да дэманстрантаў прымяніла дубінкі. Арыштаваны былі каля 50 чалавек, у тым ліку два амерыканскія, два нямецкія і некалькі беларускіх журналістаў. А на другі дзень, у трэцюю гадавіну ўхвалення дэмакратычнай канстытуцыі, каля 10 тысяч прыхільнікаў апазіцыі выйшла на несанкцыянаванае шэсце, якое ўзначалілі кіраўнікі распушчанага прэзідэнтам Вярхоўнага Савета XIII склікання — Сямён Шарэцкі, Васіль Новікаў і Генадзь Карпенка, а таксама былы спікер Станіслаў Шушкевіч. Дэманстранты прайшлі пад бел-чырвона-белымі сцягамі і антыпрэзідэнцкімі лозунгамі ад плошчы Якуба Коласа да сталічнага Палаца спорту, дзе адбыўся мітынг. Міліцыя ў гэты дзень паводзіла сябе карэктна.

**Ганенне на „Пагоню”**

У Гродне вядзецца акцыя супраць незалежнага выдання „Пагоня”, ствараюцца неспрыяльныя ўмовы для выхаду гэтай газеты. Нядаўна, згодна рашэнню Гаспадарчага суда Гродзенскай вобласці, мясцовыя ўлады абавязалі рэдакцыю пакінуць памяшканні, у якіх „Пагоня” знаходзілася на працягу пяці гадоў. Усялякія кантрольныя органы без перапынку правяраюць рэдакцыю і накладаюць шматмільённыя штрафы. Днямі ўлады ўзбудзілі крымінальную справу супраць „Пагоні” па факту асобных публікацый, якія былі ёю расцэнены як распальванне міжнацыянальнай варожасці.

**Пазіцыя ЗША**

Злучаныя Штаты Амерыкі вырашылі „астудзіць” адносіны з Беларуссю ў сувязі з пагаршэннем сітуацыі ў галіне правоў чалавека. На практыцы гэта абазначае, што амерыканская адміністрацыя будзе кантактавацца з Беларуссю толькі ў справах, якія непасрэдна датычаць ЗША. Афіцыйны прадстаўнік Дзярждэпартамента ЗША Нікалас Бернс выказаў занепакоенасць Вашынгтона парушэннямі грамадзянскіх правоў у Беларусі на працягу апошніх тыдняў.

**Моладзь і сектанцтва**

Дзяржаўны камітэт па справах моладзі зноў вырашыў узняць праблему дзейнасці дэструктыўных рэлігійных сект. Ён выдаў спецыяльную брашуру, прысвечаную ўздзеянню рэлігійнага сектанцтва на моладзь Беларусі. Спецыялісты раяць адрозніваць дэструктыўныя секты ад нармальных рэлігійных канфесій і плыняў. Да дэструктыўных у прыватнасці аднесцыя евангельскія хрысціяне баптысты, стараверы, пратэстанты, хрысціяне веры евангельскай і адвентысты сёмага дня.

**Заўчасная смерць**

Нацыянальная культура панесла цяжкую страту. На 47-м годзе жыцця раптоўна памёр акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Уладзімір Кін-Камінскі. Творчае жыццё гэтага выдатнага артыста было цесна звязана з Купалаўскім тэатрам. На яго рахунку шмат цудоўных акцёрскіх работ, але найбольш поспех прынёс яму спектакль „Тутэйшыя”, у якім ён выканаў адразу некалькі роляў. У гэтым і іншых спектаклях выступаў ён таксама на сцэне Драматычнага тэатра ў Беластоку.

**Абаронцы птушак**

У Гродне адбыўся V з'езд Заходнебеларускага таварыства аховы птушак. На ім абмеркавана дзяржаўная палітыка па захаванні біяразнастайнасці Беларусі, стан польскай часткі Белавежскай пушчы, арнітафауна і шляхі захавання яе ў самым вялікім у Еўропе Ельнянскім верхавым балоце.

# Арлянскія звычайныя незвычайныя

**У Польскім тэлебачанні ад нейкага часу дэманструюцца праграмы з цыкла „Zwyczajni niezwyczajni". Гэтыя выключна прыгожыя перадачы прадстаўляюць не столькі герояў, колькі людзей, якія думаюць не толькі аб сабе, але і спачуваюць іншым. У жыцці кожны з нас можа стаць удзельнікам трагедыі. Ведаючы, што іншыя могуць дапамагчы нам, адчуваем сябе больш бяспечна.**

Рачная запруда на Арлянцы каля млына ў Орлі — здрадлівае месца. Тут у мінулым годзе ўтапіўся малады мужчына, другога тапельца выратавалі. Гутару з **Яўгенам ПЕТРУЧУКОМ** — жыхарам Орлі, якога гаспадарка мяжуе з ракой.

— Гэта было на Тройцу, на тыдзень перад канцом навучальнага года, каля $13^{30}$. Я сядзеў у хаце, калі прыбегла мая жонка Аліна і кажа: „Хіба нехта ўтапіўся, бо чуваць крыкі на запрудзе. Бяжы там хуценька!" Я пабег, а за мною ўслед мой цесць Мікалай. Дзеці над рэчкай крычалі: „Ён ужо тройчы з-пад дна выплываў!" Абодва з цесцем кінуліся мы ў ваду. Тапелец стаяў на дне на карачках. Цесць падняў яго нагой уверх, я падхапіў цела і вынес 11-гадовага хлапчука на бераг. Не было ўжо чуваць пульсу. Сталі мы прымяняць штучнае дыханне і за трэцім разам хлопец даў знак жыцця. Жывот тапельца быў моцна набраклы. Мая жонка пабегла да тэлефона выклікаць хуткую дапамогу. Па 20 мінутах хлопца забралі ў Бельск, зрабілі рэанімацыю і адправілі ў Беласток. Там трымалі яго ў спецыяльнай камеры, прабівалі лёгкія, фільтравалі паветра. Праз некалькі гадзін стан яго паправіўся, але пасля двух дзён зноў пагоршыўся. Але, дзякуючы Богу, Кшысек выздаравеў. Калі я пытаў яго, што ён помніць з гэтага здарэння, ён адказаў: „Толькі тое, як скочыў у ваду". Беластоцкія лекары сказалі, што калі б ён заставаўся пад вадой яшчэ трыццаць секунд, то і хуткая дапамога не памагла б. Хлопец знаходзіўся пад вадой чатыры мінуты.



* * *

Усіх можа толькі радаваць факт, што вакол нас знаходзяцца людзі, якія ў крытычных момантах умеюць захаваць цвярозасць розуму і зробяць усё для ратавання жыцця іншага чалавека. У Орлі так у 1996 годзе паступілі сужонства Аліна і Яўген Петручукі і яе 60-гадовы бацька Мікалай Якімовіч. Нашы звычайныя незвычайныя — сціплыя людзі, але, мабыць, пабачым іх на тэлеэкране.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Кліент — наш пан!

Гэты лозунг з часоў камуны дачакаўся ўрэшце поўнага апраўдання. Зараз сапраўды ўважаюць пакупніка. Не паспее чалавек спыніцца каля прылаўка, а ўжо чуецца мілы голас.

— Слухам пана... цо подаць?..

Даўней толькі гаварылася, што кліент — гэта пан. У сапраўднасці, прадавец быў панам, а мы яго слугамі. Да яго мы ў „ласку" ішлі, каб нейкі дэфіцытны тавар за прылавак закінуў, без чаргі прадаў, ці нешта іншае „па блату" аформіў. За гэту дабрадзейнасць трэба было чалавеку ў ручку падарунчак падаць. Бо, як гэта прымаўка кажа, не памажаш, дык не паедзеш. Раз не дасі, на другі раз не лічы на „дабрадзейнасць". Зусім інакш маецца справа ў рыначнай эканоміцы і ў час прыватызацыі. Прыватны прадпрымальнік цэніць сваіх кліентаў. Для сталых пакупнікоў карту на некалькіпрацэнтную скідку дасць, цану панізіць. Калі грошай не маеш, пачакае, у кніжку запіша.

Вось што, значыцца, прыватны гандаль!

Цяпер выбіраем крамара, які нам падабаецца. Мы, кліенты, сапраўды сталі панамі!

У нашай чыгуначнай Чаромсе наогул крамаў хапае. Ды яшчэ новыя прыбываюць.

У суботу, напрыклад, 8 сакавіка г.г., быццам у знак прызнання для Міжнароднага дня жанчын, прыватны прадпрымальнік з Кляшчэляў адкрыў новую краму „Дукат". Змяшчаецца яна ў колішнім будынку ЗДЗ. Каб прывабіць пакупнікоў, уласнік крамы ў дзень адкрыцця прызначыў для сваіх кліентаў бохан хлеба і дзве булачкі... дарэмна, кожнаму. Што там рабілася, не расказаць. Людзі проста па галовах хадзілі. У краму носа нельга было засунуць.

Вось што, значыцца, дарэмшчына!

Два дні пасля адкрыцця наведаў і я краму. Трэба сказаць, што спадабалася мне ў гэтым магазінчыку. Прыгожае абсталяванне, добрае забеспячэнне таварамі. І пра персанал нічога дрэннага не скажаш — хуткая і ветлівая абслуга! А гэта важна! І цэны наогул не надта высокія.

Канстатуючы вышэйсказанае спадзяюся, што ў краме „Дукат" на штодзень будзе зараз царыць лозунг „Кліент — гэта наш пан!"

**Уладзімір Сідарук**

# Як нас бачаць, так аб нас пішуць

Аб Чаромхаўскай гміне, як аб прадстаўніку мясцовага самаўрада, нічога дрэннага нельга сказаць. Асабліва аб яе войту. Малайчына чалавек! Сапраўдны гаспадар! (Не думайце, даражэнькія, што хачу падлізацца). Такую ацэнку давалі мне ўсе суразмоўцы, калі гаворка тычылася гміны і яе войта спадара Міхала Врублеўскага. Колькі ў нас было начальнікаў, не пералічыць! Але ўсе яны разам узятыя не зрабілі столькі грамадству гміны, колькі гэты адзін чалавек на працягу не так ужо доўгай сваёй прафесіянальнай кар'еры.

Глянем, як зараз выглядаюць чаромхаўскія дарогі. Амаль у кожнай вёсцы асфальтаванае палатно. Даязныя дарогі таксама ў належным стане. Маем водаправод. Незадоўга пачнецца пабудова ачышчальні сцёкаў. Вуліцы чыстыя. Рабочыя з інтэрвенцыйных работ скрупулёзна выконваюць свае абавязкі. У мінулым годзе гміна купіла ўласны трактар, які ўжо зімою быў выкарыстаны для расчышчвання вуліц і пасыпвання пяском у час галалёдзіцы. Гэта толькі часцінка таго, што маем дзякуючы войту.

Але раз наведаў я Управу гміны і прабаваў у размове са спадаром М. Врублеўскім даведацца аб дасягненнях гміны, аб яе планах на будучыню, каб „пахваліцца" аб сваёй гміне ў „Ніве". За кожным разам чуўся сціплы голас майго суразмоўцы: „Няма аб чым пісаць, няма чым хваліцца. Мы толькі выконваем свой абавязак!"

І мне здаецца, што за гэтую скромнасць належыцца нашаму войту пашана.

**Уладзімір Сідарук**

# Падзяліў Нікіфар гаспадарку

Дзядзька Нікіфар ажаніўся з Ксеняй з суседняй вёскі. Хоць яна на 5 гадоў малодшая за мужа, але, як на вёсцы кажуць, крутая з яе баба. Цётка Ксеня пачала круціцца ды ездзіць з вялікімі торбамі ў Беласток. Людзі казалі, што Ксеня возіць гасцінцы дзецям, якія жывуць у блоках, каб было ім лепей жыць. Але Ксеня вазіла цяляціну, масла, яйкі і час ад часу кумпяк лекару, каб як-небудзь вырабіць інвалідскую групу і хутчэй дастаць пенсію. У выніку Нікіфар стаў інвалідам першай групы, а яна — трэцяй, бо яшчэ маладая. Падзялілі яны гаспадарку на сваіх дзетак, але надалей самі яе абрабляюць і яшчэ бяруць дзяржаўную зямлю. Цяпер Нікіфара з Ксеняй можна запрагаць у плуг і араць, такія яны здаровыя сталі.

Сын Самуіл прыязджае наведаць бацькоў толькі тады, калі заколюць парсюка або каб узяць копу яек. Нявестка не прыязджае ў вёску, бо ёй усё смярдзіць гноем, а ўжо калі муж вернецца з вёскі, дык адразу мусіць распранацца і памыцца ў ванне. Самуілава жонка, хоць паходзіць з вясковай мнагадзетнай сям'і, баіцца гаспадаркі як чорт крыжа. Не хочацца ёй пабрудзіць сваіх чырвоных пазуроў на руках і нагах.

Час ад часу прыедуць дапамагчы таксама і зяці, але толькі тады, калі пойдуць на „куранёўку". Кажуць яны, што ўлада ў горадзе не знае, што ў іх свае гаспадаркі і плацяць ім дапамогу па беспрацоўі.

Дочкі прыязджаюць прыбраць у хаце і нешта дапамагчы бацькам у гаспадарцы, але назад ад'язджаюць на сваіх машынах з вялікімі клункамі.

Цётка Ксеня, нягледзячы на інваліднасць, гадуе 5 кароў, і штодзённа валачэ малако на пункт скупкі і кожны чацвер едзе ў Беласток на таўкучку, каб там чым-небудзь пагандляваць. А дзядзька Нікіфар і кароў дагляне, і дроў з лесу прывязе, парэжа іх і паколе. Цяпер яму не перашкаджаюць ні хваробы, ні першая група інваліднасці.

Так цяпер у нашай дзяржаве павялося, што за цялятка можна купіць сабе хваробу ды жыць прыпяваючы. Цікава, як доўга вытрымае наша дзяржава і з чаго будзе яна плаціць пенсію сялянам. Варта аб гэтым сур'ёзна падумаць.

**Мікалай Лук'янюк**

# Паўстанак трэба прыбіраць!

Паўстанак ПКС у Орлі знаходзіцца ў цэнтры мясцовасці і мяжуе з прыгожым будынкам Управы гміны. Ад пачатку свайго існавання вылучаецца ён сваім паскудным выглядам і з'яўляецца агіднай візіткай мясцовасці. Раней быў час, калі яго сістэматычна прыбіралі. Цяпер ніхто пра гэта не клапоціцца. Кожны дзень з бруднага паўстанка ад'язджаюць вучні ў школы, а рабочыя на працу. Высядаюць тут дзесяткі і сотні прыезджых, чужых людзей (асабліва многа сярод іх кліентаў арлянскіх знахарак).

Паўстанак, а дакладней кажучы абудаваная пустакамі павець без сталяркі, ад усялякага роду забруджанняў брыдка пахне і не служыць пасажырам. Аднак стаіць яна надалей, а яе наяўнасць можна сцвердзіць не толькі зрокам, але і нюхам. Навошта патрэбны Орлі такі смярдзючы будынак?

Трэба сказаць, што паўстанкі пры дарогах, у пустым полі больш задбаныя, чым той у Орлі. Трэба яго папросту сістэматычна прыбіраць або разабраць і пабудаваць сціплы навес, хаця б такі, як каля кафлянага завода.

**(іч)**

# Не выжылі

Нядаўна пісаў я пра злачынства ў адным з блёкаў былога бельскага ПГРа па Белавежскай вуліцы, калі бацька падпаліў ноччу дзверы сваёй кватэры („Адпомсціў", „Ніва" ад 9 сакавіка). Дзве дочкі — 15- і 17-гадовая — учадзелыя, з моцнымі апёкамі цела трапілі ў бальніцу.

Трагедыя дапоўнілася. Абедзве дзяўчыны памерлі. Спачатку хавалі малодшую, а праз тыдзень — старэйшую. Паколькі кватэра выпалена, маладзенькіх пакойніц выводзілі з будынка зачыненай крамы, што па-суседску з блёкам. Праводзілі іх натоўпы: суседзі, калегі са школы, настаўнікі і зусім чужыя людзі.

**(ак)**

# Прадвесне на Беларусі

Ужо ад пачатку сакавіка ўлады Рэспублікі Беларусь рыхтаваліся да святкавання нацыянальнага свята — Дня незалежнасці. У Маскву адправілася дэлегацыя з прэзідэнтам Аляксандрам Рыгоравічам Лукашэнкам, каб абмеркаваць планы хутчэйшай „інтэграцыі" Расіі і Беларусі. Спадар Ельцын так ветліва абнімаў спадара Лукашэнку, што той на хвалі шчаслівага ўздыму запрапанаваў нават пашырэнне інтэграцыйнай прасторы на Кітай і падпісанне пакта Мінск—Масква—Пекін. Прэзідэнты аб'явілі волю правесці чарговы рэферэндум у справе „соединения двох братних народов" і канчаткова завяршыць гэты працэс. Агульнавядомая любоў спадара Лукашэнкі да рэферэндумаў дае падставы меркаваць, што вынікі такой акцыі загадзя вядомыя яе ініцыятарам і астаецца толькі назначыць дату правядзення плебісцыту, а галасаванне, паводле традыцыі, гэта толькі фармальнасць.

13 сакавіка паліцыя прэзідэнта Лукашэнкі ўварвалася ў памяшканні апазіцыйнага Беларускага народнага фронту. На некалькі дзён быў арыштаваны фактычны кіраўнік гэтай арганізацыі Юры Хадыка. Усё адбылося як у найлепшыя гады савецкага перыяду. Наступнага дня супраць праследавання апазіцыі і ў абарону беларускай дзяржаўнасці выйшла дэманстраваць пару соцень студэнтаў. Усялякія дэманстрацыі ў Беларусі забаронены прэзідэнцкім указам. Таму згодна з законам пачалося паляванне на „хуліганаў", як акрэсліла дэманстрантаў лукашэнкаўскае тэлебачанне. Гэтая самая крыніца паінфармавала тэлегледачоў Беларусі, што дэманстранты былі добра аплачаны апазіцыяй і, зразумела, за „антыдзяржаўную" сваю дзейнасць ганарары яны атрымалі ў доларах. Нейкі чужамоўны пастаянны прапагандыст прэзідэнцкага тэлебачання параўнаў нават акцыю беларускіх студэнтаў да левацкага маладзёжнага руху на захадзе Еўропы з 1968 года. Тады пратэсты накіраваны былі супраць раскошнага стылю жыцця заходнееўрапейскіх грамадстваў. Сёння прыгнятаючая большасць жыхароў Беларусі змагаецца за праіснаванне на ўмовах „рыначнага сацыялізму".

15 сакавіка замежныя шпіёны, відаць, падкінулі больш грошай апазіцыі, таму што на вуліцу ў гэты дзень з бел-чырвона-белымі сцягамі выйшла звыш дзесяці тысяч дэманстрантаў. Хаця дэманстрацыя была забаронена, прэтарыянцы прэзідэнта гэтым разам не адважыліся кінуцца з дубінкамі на людзей.

У тэлебачанні найважнейшай тэмай гэтага дня была падрыхтоўка да веснавых пасеваў. Грамадзяне рэспублікі даведаліся, што пра пасяўную кампанію ад пачатку года думае гаспадар краіны Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка.

А сам дзень нацыянальнага свята беларусаў — 25 сакавіка — як ужо інфармавалі замежныя сродкі масавай інфармацыі, быў як заўсёды багаты ва ўсялякія атракцыёны.

І сапраўды хіба ніхто не ведае, што чакае Беларусь у найбліжэйшай будучыні. Стары камуністычны апарат, пры дапамозе якога прэзідэнт намерыўся будаваць нейкі „сацыялістычны капіталізм", не стварае ніякай перспектывы для грамадства, якое штораз часцей будзе бунтавацца супраць існуючай рэчаіснасці. Уцякаючы ў абдымкі Расіі Лукашэнка прабуе зняць з сябе адказнасць за гаспадарчую руіну. Людзі памятаюць як нядаўна абяцаў ён „запусціць усе заводы", ліквідаваць карупцыю, плаціць за выкананую працу. Тым часам карупцыя дасягнула маскоўскага ўзроўню, прадпрыемствы абмяжоўваюць вытворчасць, а рабочыя месяцамі чакаюць абяцанай платы. Прыклад Балканаў паказвае, што вынослівасць кожнага грамадства абмежаваная. Добра ведае пра гэта былы палкоўнік савецкага КДБ Аляксандр Лукашэнка. Пакуль што хаваецца ён за спіною ўсялякіх паліцэйскіх фарміраванняў, а на праявы кожнага бунту рэагуе аднолькава — пасылае роты хлопцаў з вялікімі дубінкамі. На нейкі час гэты метад прыносіць запланаваныя вынікі. Але што далей? Разбудаваныя да абсурду паліцыйныя фарміраванні не арганізуюць і не выпускаюць ніякай прадукцыі, не даюць ніякага капіталу, яны яго выключна марнуюць. Таму з пункту гледжання прэзідэнцкага акружэння найбольш сэнсоўным выхадам было б далучэнне да Расіі. Адурманенаму грамадству можна расказваць пра супольнасць лёсаў двух братніх народаў, палохаць пагрозай з боку НАТО і выклікаць атмасферу падтрымкі для гэтага напрамку палітыкі. У рэчаіснасці, як здаецца, аб'яднанне Беларусі і Расіі дае вертыкальшчыкам магчымасць свабоднага і бяспечнага карыстання „прыхватызаванай" дзяржаўнай маёмасцю. Усё, дарэчы, адбываецца паводле найлепшых расійскіх узораў. У гэтай галіне наступіла ўжо поўная інтэграцыя. Адсутнасць дэмакратычных механізмаў змены дзяржаўнай палітыкі і палітыкаў не стварае для Беларусі добрых прагнозаў на найбліжэйшую будучыню.

(рэд.)

# Сакавіцкае віншаванне

**„Ніва", тыднёвік Беларусаў у Польшчы**
**Дарагія Суродзічы!**

25-га Сакавіка 1918 году Беларусь абвесьціла ўсяму сьвету, што яна хоча быць вольнай і незалежнай дзяржавай. Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі вітае Вас, дарагія суродзічы, з гэтаю гістарычнаю датаю.

Напрацягу двухсотгадовае акупацыі, расейская імпэрыя, перш белая, а пасьля чырвоная, душыла ў беларусаў ініцыятыву розуму, вытручвала асабістую годнасьць, намагалася перытварыць наш народ у нацыянальна неарганізаванае, нядумаючае самастойна, безаблічнае насельніцтва.

Беларускі народ выжыў, але змаганьне працягваецца. Двухсотгадовая акупацыя пакінула нам сумную спадчыну. Яна прытупіла самасьведамасьць у частцы нашага грамадзтва, выхавала ў Беларусі пярэваратняў, якія трымаюцца за ўсё тое, чым іх нашпігоўвалі расейскія акупанты.

Пасьля кароткага ўздыму на пачатку гэтага дзесяцігодзьдзя, улада ў Беларусі зноў трапіла ў рукі, з аднаго боку, чужое, варожае нам дзяржавы, а з другога пярэваратняў уласнае гадоўлі, якія выступаюць за аб'еднаньне з Расеяй, робяць гэтае аб'еднаньне панацэяй ад усіх сучасных беларускіх эканамічных цяжкасьцяў, раскідаюць Беларускую дзяржаву.

Гуртуючыся вакол ідэі незалежнасьці, мы павінны не пакідаць працы, змагацца за волю Беларусі. Няхай дзень 25-га Сакавіка вядзе нас да поўнае перамогі, да праўдзівае незалежнасьці нашай Бацькаўшчыны!

**Расьціслаў Завістовіч**
**Старшыня**
**Міхась Сенька**
**Сакратар**

# Мілейчыцкія яўрэі

**Успамінае Уладзімір ПРАКАПОВІЧ — 85-гадовы жыхар Мілейчыч.**

У даваенных Мілейчычах большасць складалі яўрэі. Затым другой групай былі праваслаўныя. У 1920-х гадах жылі ў нас толькі дзве каталіцкія сям'і. Школа была ў нас адна і яўрэйскія дзеці вучыліся разам з хрысціянскімі.

Галоўным заняткам яўрэяў былі прадпрымальніцтва і гандаль. У іх руках знаходзіліся ўсе магазіны і склады. Спробы хрысціян адкрываць свае крамы ці прадпрыемствы канчаліся няўдачай. Напрыклад, мае браты Антон і Аляксандр, вярнуўшыся раней з бежанства, адкрылі краму, але не вытрымалі канкурэнцыі і ў 1921 годзе прыйшлося ім закрыць „інтарэс" і шукаць іншага занятку. У Мілейчычах быў кафляны завод, якога ўладальнікам быў яўрэй Горфейн, які лічыўся самым багатым чалавекам. Паколькі кафлі карысталіся тады вялікім попытам, новую кафлярню задумалі пабудаваць палякі — Марцін Воіньскі і Казімеж Жарскі. Але калі сталі яны выпускаць кафлі, пачаліся ў іх клопаты са збытам. Яўрэйскія гандляры лічылі іх прадукцыю няякаснай, быццам гліна, з якой выраблялі кафлі, змяшчала празмерна многа мергелю. Пасля двух гадоў прадалі яны завод яўрэям і кафлі адразу набылі новую якасць.

Яўрэі жылі пераважна ў цэнтры мястэчка — у рынку, з якога выходзілі Рагацкая, Бельская і Паканеўская вуліцы. Найважнейшым будынкам была старая, драўляная бажніца, якую ў 1927 годзе замяніла мураваная сінагога. Побач яе знаходзіўся дом рабіна.

У сасновым ляску, з усходняга боку Мілейчыч, сталі яўрэйскія дачы. Быў гэта комплекс з 11 двухпавярховых будынкаў памерамі 13 на 50 метраў. У іх былі сталовыя і пакоі для курортнікаў. Галоўным чынам прыязджалі сюды адпачываць хворыя на сухоты, каб падмацаваць сваё здароўе свежым, насычаным жывіцай паветрам. У сезоне прыязджала нават да пяці тысяч яўрэяў з усяе Польшчы.

Кожны яўрэй трымаў для сваіх патрэб адну карову. Яшчэ да выбуху першай сусветнай вайны хацелі яны карыстацца сервітутам і пасвіць сваіх кароў па прыватных палях і лясах. Мілейчыцкія мяшчане не згаджаліся на гэта і яўрэі падалі іх у суд у Высокае і справу пачаткова выйгралі. Мой бацька, Якуб Пракаповіч, быў тады мяшчанскім старастам. Мілейчукі сталі яго падазраваць у нейкай змове з яўрэямі. Тады ён і трое паверaных падалі справу ў Апеляцыйны суд у Вільні, які адмяніў папярэдні прысуд і такім чынам ачысціў бацьку ад абвінавачанняў. Пазней, пасля вяртання з бежанства, бацька яшчэ дзесяць гадоў быў войтам Мілейчыцкай гміны. У такой сітуацыі яўрэі былі вымушаны арандаваць у жыхароў Сабятына лес ва ўрочышчы Асінкі, у якім пасвілі сваіх кароў. Пастухом у іх быў гой — наняты хрысціянін.



Некаторыя яўрэі займаліся рамяством — шавецтвам, кавальствам, кравецтвам. Мелі яны яшчэ завод газіраваных напіткаў, чатыры пякарні. Самы багаты магазін быў у братоў Рубіна і Хаіма Тарэспальскіх (цяпер у гэтым будынку знаходзяцца бюро і крамы ГС). Непадалёк (у будынку сённяшняй сацыяльнай дапамогі) быў аптовы склад. Але былі таксама і бяднейшыя крамы, у якіх куплялі незаможныя мяшчане і навакольныя сяляне. Прыпамінаецца мне такая вось гісторыя. У рыбную лаўку зайшоў бедны мужык са Снежкаў і, нічога не купіўшы, макнуў кавалак сухога хлеба ў расол, які стаяў у бочцы з-пад селядцоў. Заўважыла гэта яўрэйка і кажа:

— Ой, Стэпанэ, ты ласунчык у мэнэ.

Пасля прыходу саветаў у 1939 годзе яўрэі моцна актывізаваліся. Многія з іх былі сябрамі камуністычнай партыі, напрыклад, Рубін Тарэспальскі, які пры санацыі нейкі час сядзеў у канцэнтрацыйным лагеры ў Картуз-Бярозе. Але не ўсе яўрэйскія прадпрымальнікі ахвотна дзяліліся сваёй маёмасцю з пралетарыятам. Калі саветы нацыяналізавалі гандаль, жонка Пінкаса Пякарскага — уласніца крамы, якая знаходзілася ў ейнай хаце, прыгаварвала:

— Страна моя, Москва моя, але хаточка нэ моя!

Немцы сагналі ўсіх яўрэяў з Мілейчыч і Нурца ў гета. Было іх там 1050 чалавек. Пазней немцы заказалі падводы ў сялян, на якіх везлі нямоглых на станцыю ў Кляшчэлі. Астатніх гналі пехатою. Я таксама вёз яўрэяў на фурманцы. Грузілі іх у таварныя вагоны, запіхалі ў сярэдзіну, б'ючы дубінкамі і прыкладамі карабінаў. Загінулі яны ў Траблінцы.

Мне вядома, што ацалелі два мілейчыцкія яўрэі, якія служылі ў савецкім войску. Пасля вайны прыехалі яны, пабылі ў нас некалькі дзён і паандравалі далей. Потым прыязджаў са Злучаных Штатаў Амерыкі сын аднаго з іх паглядзець дом сваіх продкаў.

**Запісаў Віталь Луба**

# Запаведнікам Беларусі пагражае небяспека знікнення

[1 ☞ працяг]

тычных рэсурсаў. Прызнаны ў радзе міжнародных фондаў і арганізацый Прыпяцкі ландшафтна-гідралагічны запаведнік. Усё гэта накладвала на запаведнікі, акрамя нацыянальных, міжнародныя прыродаахоўныя абавязкі.

Прыход да ўлады А. Лукашэнкі перакрэсліў усе дасягненні запаведнікаў. Цяпер ён узяў іх пад сваю „апеку” — апеку спецыяльна створанага *Упраўлення справамі прэзідэнта*. Непаінфармаванаму чытачу можа паказацца незразумелым, якія справы могуць быць у прэзідэнта да запаведнікаў.

Ва ўсіх развітых краінах, да якіх мы залічаем і сябе, аховай прыроды кіруюць прыродаахоўныя ведамствы. У Беларусі, цяпер, усё інакш.

З прыходам да ўлады прэзідэнта Лукашэнкі былі зняты з кіруючых пасад спецыялісты ў міністэрствах і запаведніках. На іх месца пастаўлены былыя старшыні калгасаў. А складаныя, унікальныя экалагічныя сістэмы запаведнікаў — гэта ж не калгасы. Такое кіраўніцтва і агульная культура кіраўнікоў спарадзілі памылковы падыход да запаведнікаў як да гаспадарчых аб'ектаў. Але ж кожнаму спецыялісту вядома, што запаведнікі створаны і існуюць толькі для дзвюх галоўных мэтаў: першая — ахова прыродных сістэмаў і захаванне іх для будучых пакаленняў; другая — навуковае даследаванне гэтых экалагічных сістэмаў. Кіраваць функцыянаваннем прыродных сістэмаў — няпростая справа, і гэтым павінны займацца спецыялісты.

Прыпяцкі ландшафтна-гідралагічны запаведнік ператварыўся, апошнім часам, у вялікую аграрна-жывёлагадоўчую гаспадарку, з дапамогай якой Адміністрацыя прэзідэнта займаецца камерцыяй. Тут паскоранымі тэмпамі сякуць сасновы лес і каштоўнейшыя ў Еўропе дубровы, для якіх калісьці, у 1969 годзе, і быў заснаваны гэты рэзерват. Тое ж самае адбываецца і ў Нацыянальным парку „Белавежская пушча”. Шырока вядомая несамавітая гісторыя пра драўляныя стойкі для шахтаў, якія Адміністрацыя прэзідэнта збіралася прадаць Украіне. Недарэчны ўказ зверху, і ў нашых запаведніках была ссечана вялікая колькасць каштоўных дрэў. Для інфармацыі, гэтыя стойкі пасля так і згнілі ў лесе, бо „заламалі” такую цану, што іх ніхто не купіў.

Апрача загатоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі і дрэва Адміністрацыя прэзідэнта „спускае” заказы на загатоўку дзічыны, ягадаў, мёду, лекарскіх траў для сваіх рэстаранаў і бараў, якіх зараз ужо цэлая сець у Мінску. На адным навукова-практычным паседжанні з боку новага кіраўніцтва прагучаў і довад, і апраўданне гэтых дзеянняў: усё роўна, маўляў, усё гэта знікне, бо мясцовыя людзі пазбіраюць. Замест выконвання сваіх прафесійных абавязкаў леснікі, егеры, навуковыя працаўнікі зараз робяць грошы для Адміністрацыі, а самі не атрымоўваюць заработнай платы месяцамі.

Усім даўно вядома, што на тэрыторыі запаведнікаў законам забараняецца паляванне, прамысловая лоўля рыбы, адлоў дзікіх жывёл, збіранне грыбоў, ягад, раслін і насякомых. Дазволена гэта ў строга абмежаванай колькасці і толькі для патрэб запаведнікаў, іх працаўнікоў і людзей, што жывуць на іх тэрыторыі. У гэтым кантэксце незразумелы ўпор на атрыманне прыбытку ад палявання ў запаведніках замежных паляўнічых. Гэта прыводзіць да масавага адстрэлу аленяў, кабаноў, ваўкоў, якіх застаецца ўсё менш і менш. У канцы канцоў у Рэспубліцы ёсць розныя звычайныя лясныя гаспадаркі, паляўнічыя заказнікі і г.д., якія былі заснаваны для такіх мэтаў. Замест пашырэння плошчы запаведных лясоў, нагляданем далучэнне іх да сельскагаспадарчых угоддзяў і распродаж унікальных лясных масіваў, балот, азёр, дзікай фауны і флоры розным камерцыйным структурам. Цяпер нават прыгожая гасцініца ў „Белавежскай пушчы” ператварылася амаль-што ў публічны дом.

Вось так рабуецца і нішчыцца прырода запаведнікаў Адміністрацыяй нашага „усенародна выбранага прэзідэнта”. Кожнаму сапраўднаму грамадзяніну-эколагу зразумела, што гэтая мізэрная, маментальная выгада ніяк не апраўдвае вялікія страты спрычыненыя такой эксплуатацыяй гэтых унікальных куткоў беларускай прыроды.

Ніхто не мае права парушаць дзяржаўныя і міжнародныя прыродаахоўныя патрабаванні і законы, нават „першы прэзідэнт Рэспублікі Беларусь”. Пры навуковых візітах экпертаў-эколагаў з розных міжнародных арганізацый хаваюцца ад іхніх вачэй злачынствы ўчыненыя ў запаведніках. Гарэлкай ды падарункамі стараюцца купіць іхняе маўчанне. Можна сабе ўявіць, да якога рэзанансу ў свеце можа прывесці пазбаўленне запаведніка аднаго са статусаў за невыкананне міжнародных прыродаахоўных патрабаванняў!

Усяму вінаваты непрафесіяналізм, і дзеля гэтага нас яшчэ чакае шмат праблем. Усё гэта адбываецца тады, калі як у вядомай пагаворцы „з гразі — ды ў князі”. Усім людзям трэба займацца сваімі справамі: лесаводу — ахоўваць і вырошчваць лес, навукоўцу — вывучаць, настаўніку — вучыць, селяніну — вырошчваць хлеб. Тады будзе толк.

Беларускія запаведнікі — гэта унікальныя куткі прыроды, гордасць і багацце нашага народа, сусветная спадчына, якую мы атрымалі ад бацькоў, а не прыватная маёмасць групы недавучак. Мы павінны выратаваць і захаваць гэтую спадчыну для будучых пакаленняў.

**Язэп Грацэўскі**
**эколаг, НП „Белавежская пушча”**

# Адгалоскі

**Спадар Яўген Мірановіч,**
Галоўны рэдактар тыднёвіка „Ніва”.

Паведамляю Вас, што змешчаныя ў „Ніве”: цытата з газеты „Kurier Podlaski” № 7 і № 9) і ліст спадара Мікалая Лук'янюка пра мой, быццам бы, супраціў адносна беларускамоўных перадачаў па мясцоваму, рэгіянальнаму тэлебачанні не адпавядаюць праўдзе, яны фальшывыя.

У маім выказванні, таксама газеце „Kurier Poranny”, я падкрэсліваў неабходнасць рыхтаваць адрасаваныя да нацыянальных меншасцяў перадачы на іх родных мовах, пры тым я ўказваў на патрэбу карыстацца, побач з літаратурнымі мовамі, таксама мясцовымі гаворкамі. Журналіст з газеты „Kurier Podlaski” дапытваўся таксама пра маё меркаванне адносна спосабу падрыхтоўкі гэтых перадачаў, г.зн. ці яны павінны праводзіцца ў адной ці некалькіх рэдакцыях і што я думаю пра ініцыятыву запрашэння да дыскусіі на тэму гэтых перадач, апрача дзеячаў Беларускага саюза, таксама прадстаўнікоў БГКТ і месячніка „Przegląd Prawosławny”. У сувязі з тым, што не з'яўляюся спецыялістам у справе рэдагавання тэлевізійных перадачаў, я адказаў: гэтае пытанне лічу „другарадным”, а задумку паклікання „Кансультацыйнай рады” правільнай, калі такая структура не будзе фасаднай, мішурнай. Спадар Нікітаровіч, скарачаючы маё выказванне, накінуў думку: усё, што робіць кіраўніцтва асяродка TV у Беластоку, я лічу правільным. Маю надзею, што гэта міжвольная маніпуляцыя. А так, папраўдзе, апрача адной, то я не ўдзельнічаў ні ў якіх-колечы нарадах, а тым болей у працах, звязаных з паўстаннем гэтага асяродка.

Падчас мае працы ў Брацтве праваслаўнай моладзі, а потым у месячніку „Przegląd Prawosławny”, таксама ў сваёй пасольскай дзейнасці я стараўся карыстацца маёй роднай мовай, у выглядзе мне найбольш блізкім, бо пераняты ад маці. Думаю, Галоўны рэдактар „Нівы”, прынамсі ў адносінах да часу, калі ён быў маім рэдакцыйным калегам, можа тое пацвердзіць.

Жэнік! Калі ты сумняваешся і падазраеш, што пасля таго часу я змяніў свае погляды ў гэтай справе, то, калі ласка, перад прыняццём рашэння, ці публікаваць чарговыя непрыхільныя да мае асобы матэрыялы, пазвані на нумар: 42 18 57.

**З пашанай Eugeniusz Czykwin**

P.S. Мяркую, што дыскусія, а можа таксама і супрацоўніцтва ўсіх беларускіх журналістаў у стварэнні перадач, неабходная. Калі б толькі „Ніва” ды дзеячы Беларускага саюза былі зацікаўлены такім супрацоўніцтвам, то ад свайго імя і маіх калегаў выказваю гатоўнасць да яго.

* * *

**Шаноўны сп. Аляксандр Вярбіцкі!**

Прачытаў я ў „Ніве” н-р 9 ад 2 сакавіка г.г. артыкульчык „Хамава нацыянальнасць”, з якога вынікае, што Вы не ведаеце добра, як лічацца гады ад стварэння свету і не звярнулі ўвагі на сваю памылку. Ад стварэння свету да новай эры, г.зн. да нараджэння Хрыста, гады лічацца па ападаючай шкале: ад большага к меншаму, а ад нараджэння Хрыста па ўзрастаючай шкале — ад меншага да большага. Вось, напрыклад, маем XX стагоддзе, а неўзабаве будзе XXI. Ці Вы не заўважылі сваёй памылкі, калі пішаце: „Паводле Пісання Хам нарадзіўся ў 2162 г. пасля стварэння свету, нацыі ж узніклі ў 2792 годзе падчас Вавілонскага вежабудавання, значыць 630 гадоў пасля Хамавага нараджэння”. А ці не наадварот!? Хам нарадзіўся пасля вежабудавання ў 2162 г. і напэўна „не мяшаў ён там гліну”.

Малаадукаваны чытач „Нівы” гэтага не заўважыць. Але ж Вам трэба ўважліва чытаць Стары Тастамант! Калі Вы знаёмы з тэорыяй акадэміка Мара аб паходжанні моў, дык павінны ведаць, якія народы пайшлі ад Ноевых сыноў. Ад Сіма пайшлі семіты, г.зн. жыды і арабы, ад Хама — хаміты, а ад Яфета — каўказскія народы. Падрабязнасцей пісаць не буду. Я вывучаў Стары Тастамант на Гістфаку БДУ ў акадэміка Нікальскага. Вам раю быць уважлівым да храналогіі. Выбачайце за гэтую заўвагу.

З пашанай да Вас.

**Сымон Шаўцоў**
**10.03.1997 г. Аўстралія.**

P.S. Прывітанне ўсім супрацоўнікам „Нівы”.

Жыве Беларусь!

*

Маеце рацыю, спадар Шаўцоў! Апорным пунктам прынятай у нас храналогіі з'яўляецца год нараджэння Хрыста, а не, як гэта ўздумалася мне, стварэнне свету. У кнізе *Объяснение Символа веры, молитв и заповедей, с подготовительными к нему рассказами из священной истории и с кратким учением о Богослужении православной церкви*, адобранай *Святейшим Синодом, Главным Управлением Военно-Учебных Заведений и Ученым Комитетом Министерства Народного Просвещения*, а выдадзенай у Пецярбургу ў 1912 г. і напісана, што стварэнне свету было ў 5508 г. да н.э., сусветны патоп быў у 3246 г. да н.э., а вавілонскае вежабудаванне і рассеянне народаў было ў 2716 г. да н.э. Калі б прымеркаваць дзве апошнія даты да першай, дык патоп быў 2262 гады пасля стварэння свету, а вежабудаванне — 2792 гады. Патоп пачаўся, калі Ною было 600 гадоў (Начаткі, 7.6 і 7.11), а Ноевы сыны нарадзіліся, калі Ною было 500 гадоў (Нач., 5.32), значыць сто гадоў перад патопам (Нач., 11.10): 2262-100=2162 гады пасля стварэння свету, або 3246+100=3346 гадоў да н.э. З якога б боку ні глядзець, вавілонская вежа была пабудавана 630 гадоў пасля нараджэння Хама і 530 гадоў пасля патопу. Калі б рассеянне народаў было перад патопам, дык жа яны ўсе паталіліся б, і пасля існаваў бы толькі той, да якога належала Ноева сям'я. І яшчэ адно: калісь, калі я быў малы і на небе паказвалася вясёлка, старэйшыя людзі тлумачылі мне, што гэта знак таго, што больш патопу не будзе, а за грахі людзі будуць цярпець ад агню і мяча. Ці ж рассеянне народаў не навяло апошняга? Як жа ж тады яно магло здарыцца перад патопам?

Да гэтага ўсяго хачу дадаць, што наша сучасная храналогія — не адзіная, ды і яна, ад часу, калі яе запрапанаваў манах Дзіянісій недзе каля 525 г. н.э., прабівалася да поўнага прызнання ў хрысціянскім свеце каля пяцісот гадоў. Яўрэі свае гады лічаць ад стварэння свету, якое, паводле іхных рахункаводаў, было ў 3760 г. да н.э., а мусульмане ад 622 г. н.э. — ад бежанства Махамета з Мекі ў Медыну.

Плюралізм выступае не толькі ў храналогіі, але і ў поглядах на ўзнікненне моў. Вось, напрыклад, аўтахтонныя плямёны поўдня Шостага кантынента не раздзяляюць меркавання акадэміка Мара, але тлумачаць гэтую з'яву па-свойму. Паводле іх, калісь жыла ведзьма Вурура, якая прычыняла людзям многа зла і калі яна памерла, людзі не хаўтурылі, але ад радасці кінуліся вясяліцца і спраўляць канібальскую гасціну на ёй. І калі сталі есці розныя яе кавалкі, загаварылі на розных мовах. Не ведаю толькі, ці займаўся хто прымяненнем гэтай тэорыі для вывучэння моў: цікава вось, напрыклад, да чаго прысмактаўся той, што загаварыў па-французску...

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Не адзін пазайздросціў бы мараў

Неўзабаве першы дзень вясны. У Дубінах хочуць незвычайна правесці гэты дзень. Настаўнікі падрыхтавалі ўжо многа атракцыёнаў. Будуць каўбаскі, вогнішча, супольныя спевы і гульні. Не дзіва, што ў Дубінах няма ў той дзень „вагаровічаў".

* * *

У цёплы сакавіцкі дзень „Зорка" завітала ў Дубіны. Тут вучыцца 167 дзетак. Найбольш школьнікаў з самых Дубін і Навасад. У школе вучацца таксама дзеткі з Барысаўкі, Альховай Кладкі, Васількова, Смалянога Садка, Галяковай Шыі, Сарочай Ножкі, Звадзецкага, Пераходаў, Бельшчыны, Пасталова, Савінага Груда, Скрыплева і Гнільца. На беларускую мову ходзіць 108 дзяцей. Варта адзначыць, што сярод іх ёсць не толькі праваслаўныя, але і каталікі.

У Дубінах многа чытачоў „Зоркі".

— Гэта самая папулярная газета ў нашай школе, — сказалі настаўнікі.

* * *

Настаўніца Ніна Гаўрылюк — выхавацелька шостага класа. Яна заадно і навучае беларускай мове. У класным кабінеце цікавая этнаграфічная выстаўка. Гэта школьнікі папрыносілі гліняную пасуду, сельскагаспадарчыя прылады, вышыванкі. На сцяне беларуская насценная газета. Сярод звестак і артыкул з „Зоркі" пра Цэнтральны дэкламатарскі конкурс беларускай паэзіі і прозы. Ніна Гаўрылюк многа часу адводзіць маладым дэкламатарам. Яна вядзе пасляўрочныя заняткі „Жывое слова". Там моладзь мае нагоду развіваць дэкламатарскія зацікаўленні. Плёнам дэкламатарскіх сустрэч былі поспехі. Юстына Койла і Аня Скепка занялі прэстыжныя месцы на раённым і цэнтральным дэкламатарскіх аглядах.

— Аж 17 добраахвотнікаў хацела дэкламаваць беларускія вершы, — кажа настаўніца.



*Вучні IV і V класаў з настаўніцай беларускай мовы Нінай Гаўрылюк.*

Юстына Койла родам з Дубін. Яна заваявала II месца на Цэнтральным дэкламатарскім конкурсе. Юстына найбольш любіць творчасць „белавежцаў", таму і рашылася на верш Дзмітрыя Шатыловіча „Радзіма".

Пасля заканчэння Пачатковай школы Юстына збіраецца ў Гайнаўскі беларускі ліцэй. Сваё жыццё хацела б яна звязаць з тэатрам. Марай дзяўчынкі з'яўляецца таксама паездка ў Беларусь.

Аня Скепка, сяброўка-дэкламатарка, хацела б быць перакладчыцай.

— Цікавяць мяне беларуская, англійская і расейская мовы, — сказала яна.

Разам з дзяўчаткамі ў Гайнаўскі ліцэй збіраецца Міхась Аксянцюк. Гэты шасцікласнік найбольш любіць гістарычныя кніжкі. Міхась ведае легенду пра свае Дубіны.

— Даўно-даўно, у месцы дзе цяпер наша вёска, раслі вялікія дубы, — расказвае ён.

Міхась — паклоннік Генрыка Сянкевіча. У будучыні хацеў бы стаць студэнтам юрыдычнага факультэта Варшаўскага універсітэта. Мары шасцікласнікаў з Дубін добра і цікава прадказваюць будучыню.

У VII, VIII і IV класе я таксама пазнаёмілася з энтузіястамі „Зоркі". Наша гутарка датычыла месца пражывання. Як паказалася, палова з апытаных дзяцей і моладзі хацела б жыць у сваёй вёсцы. Маладыя людзі ўмеюць цаніць экалагічныя і культурныя каштоўнасці сваёй Бацькаўшчыны.

* * *

— Аж 30 дзяцей з нашай школы атрымала ўзнагароду войта Гайнаўскай гміны Вольгі Рыгаровіч, — кажа дырэктар ПШ у Дубінах Ніна Валкавыцкая. Гміна зафундавала кніжныя ўзнагароды ўсім лаўрэатам конкурсаў і алімпіяд. З Дубін, як пазней паказалася, прыехала самая вялікая група школьнікаў. Гэтую групу ў большасці складалі юныя паклоннікі тэатра, лаўрэаты тэатральнага агляду. Дзеткі з настаўніцай Надзеяй Гаган і зараз рыхтуюцца да тэатральнага агляду, які 17 красавіка адбудзецца ў Кляшчэлях.

Ужо ў час школьнай ёлкі п'есу энтузіястычна ацанілі бацькі і старэйшыя сябры. Настаўніца Надзея Гаган наладзіла таксама вельмі цікавы інтэр'ер беларускага кабінета ў Навасадах. Якраз у Навасадах вучацца наймалодшыя дзеткі з ПШ у Дубінах. Варта адзначыць, што ўсе дзеці з Навасад ходзяць на беларускую мову.

* * *

У Дубінах не зменшваецца лік навучэнцаў. Зараз нулявы клас наведвае аж 25 дашкольнікаў. Вялікай марай бацькоў, настаўнікаў і дзяцей з'яўляецца пабудова новай школы. Цяпер у Дубінах нялёгкія ўмовы для працы. Аднак атмасферы і „мараў школьнікаў" магла б ім пазайздросціць не адна гарадская сучасная школа.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*



*Юстына Койла, Міхась Аксянцюк і Аня Скепка — энтузіясты беларускай мовы.*

## Гоман ляснога раўчука

Прыйшла вясна. У лесе на палянах снег пачарнеў, пачаў раставаць, і з-пад сумёта выбег першы лясны раўчук. Прыпыніўся, каб перадыхнуць, сабрацца з сілаю, і зазвінеў ад радасці, памчаўся весела ў сонечны свет.

Бяжыць ён сярод кустоў і дрэў, абвівае высокія ўзгоркі і камяні. Вада ў раўчуку халодная, празрыстая. Падляціць да яго сінічка, сядзе на каменьчык і нап'ецца вады. „Цінь-цінь", — дзякуе птушачка. А раўчук, здаецца, таксама адказвае ёй сваім срэбным гоманам і мчыцца далей. З кожным крокам раўчук набірае моцы. Абапал яго растуць сінія кветачкі-пралескі. Ясныя зорачкі пралесак з белым пярсцёнкам пасярэдзіне, свежыя і чыстыя, нібы памыліся ў празрыстай раўчуковай вадзе. Раўчук затрымаецца на хвілінку, палюбуецца на сінія вочкі кветак, а потым заспяшаецца далей.

Зляцеў з бярозы да раўчука лясны свістун шпак. Глянуў у ваду, як у люстэрка, каб спраўдзіць, ці ў добрым стане яго чорны блiскучы фрак. „Ф'ю-ф'ю-ф'ю!" — усклікнуў ад задавальнення, зноў узляцеўшы на бярозу. Перагукнуўся з ім раўчук — і ў дарогу.

Так бяжыць ён па лесе ад самага пачатку вясны. Затрымаецца на хвілінку-другую, перагукнецца з птушкамі, напоіць іх вадзіцаю-святліцаю, убярэ-ўдыхне свежы пах кветак і маладых лісцікаў — ды зноў спяшаецца ўдалячынь.

Гамоніць ён паміж узгоркаў, весела гуляючы ў вадзе сонечнымі промнямі. Бачыць кожны крок вясны і гамоніць аб гэтым, гамоніць...

**Нэля Рэмжа**
**7 клас**

*(Са зборніка „Казкі дзяцей Беларусі")*

## *Пішуць школьнікі*

**Дарагая Зорка!**

Пішуць табе дзеці з Гданьскай беларускай школкі. Мы вельмі рады, што маглі правесці зімовыя канікулы ў Нарве на Сустрэчах „Зоркі".

Цешыць нас тое, што мы пазнаёміліся з многімі беларускімі дзецьмі з Беласточчыны. З прыемнасцю ўспамінаем нашых апекуноў: Ганну Кандрацюк, Янку Морданя, Валянціну Бабулевіч, Аліну Ваўранюк, Дарафея Фіёніка, Алеся Кабзара і Тамаша Саевіча.

Вельмі нам падабаліся сустрэчы з паэткай Надзеяй Артымовіч і беларускай дзяячкай Галенай Тапалянскай.

Час праводзілі мы вельмі прыемна ў тэатральнай, вакальнай і мастацкай групах. Многаму мы навучыліся.

Цяпер часта ўсё гэта ўспамінаем.

Сардэчныя прывітанні шлюць

**Цэліна Глагоўская**
**і Тамаш Іванюк**

# Крыжаванкі № 13

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

*Даслаў Марцін Чэрвінскі, вучань VI класа ПШ у Храбалах.*

славуты беларускі пісьменнік

не адзін у заапарку

па вясне

невялікі празаічны твор

не адно ў лесе ці ў парку

пасля перапынку

лятаў там Юрый Гагарын

Stodoła

Pięść

Dźwięk

Mięta

Okna

Figa

Kat

Zezowaty

**Адказ на крыжаванку № 9: пралеска, Рым, курс, мыза, Аман, запіс, прыз, рыза, замак, бекас, сум, ікра, сасна.**

Кніжку „Казкі беларускіх дзяцей" выйгралі: **Уля Тарасэвіч** з Гарадка, **Кася Леанюк** з Гайнаўкі, **Лукаш Астроўка** з Нарвы, **Мажэна Мінько** з Ласінкі і **Эва Ярмоцік** з Дубін.

Набор каляровых аўтаручак атрымаюць: **Аня Шарэйка** з Нарвы, **Сава Астапчук** з Гарадка, **Ігар Дзікевіч** са Старога Беразова, **Андрэй Крук** з Катоўкі.

Віншуем! Узнагароды можна атрымаць у рэдакцыі „Нівы" або чакаць іх у сваёй школе.

# Дубяжын — вёска на Беласточчыне

Назва вёскі Дубяжын трошкі дзіўная, але і цікавая. Першы члён яе „дуб" узяўся з таго, што ў гэтым месцы калісьці быў вялікі дубовы лес. Другі член „яжын" паходзіць адтуль, што каля лесу было многа ажын, якія збіралі ўсе людзі.

Дубяжын перад I сусветнай вайной, так як і іншыя мясцовасці на Беласточчыне, быў невялікай беднай вёсачкай. Людзей жыло ў ёй мала, аднак было з тры сям'і прыезджых. Людзі гэтыя займаліся кавальствам, вырабам шкур і стаўляннем пячэй. У Дубяжыне слаба развівалася сельская гаспадарка. Зямлі было мала. Большасць яе была ўласнасцю пана, які даваў сялянам у арэнду невялікія палоскі поля. Жыццё ў тыя часы было цяжкае. Мужчыны, каб зарабіць на хлеб, хадзілі працаваць у суседнія вёскі. Моладзь таксама працавала. Найчасцей пасвіла яна кароў і малаціла збожжа ў багацейшых людзей. У Дубяжыне была тады школа, у якой вучыліся дзеці з навакольных вёсак. У гэтай мясцовасці была таксама карчма, у якой можна было выпіць і часам з'есці.

I сусветная вайна да Дубяжына не дайшла. Вёска гэта пачала штораз хутчэй развівацца. Стала яна гмінай і іншыя вёскі пачалі пад яе падлягаць.

Мінулі гады. Пачалася II вайна. У гэты час Дубяжын быў пад савецкай уладай. У блізкім лесе стаяла войска, а ў багацейшых сем'ях жылі рускія афіцэры. Бралі яны ад людзей малако, мяса, збожжа. Жыхароў яны не білі, не вывозілі на работу. Калі немцы наехалі на Савецкі Саюз, Дубяжын апынуўся пад панаваннем нямецкіх салдат. Бралі яны малодшых людзей на прымусовыя работы. Калі Польшча ставала свабоднай краінай, немцы падпалілі Дубяжын і ўцяклі. Людзі хаваліся ў лесе. Потым пачалі яны зноў жыць у сваёй вёсцы. Будавалі сабе новыя дамы, грамадскім чынам пабудавалі школу, паставілі магазін, святліцу і асяродак здароўя. Многа людзей павыязджала за граніцу, шукаючы лепшай будучыні. Жыхарам Дубяжына жылося лепш. Было ўжо больш работы ў Бельску. Спачатку хадзілі людзі на работу пяшком. Потым цераз Дубяжын пачала праходзіць чыгунка (1958 г.). У Дубяжыне пачалі праводзіць электрычнасць (1964 г.). Ставаўся ён штораз большай вёскай, у якой пачала развівацца культура. Быў тут беларускі хор „Дубочкі" (ад 1978 г. да 1985 г.). Калі пачала змяняцца ўлада ў Польшчы, Дубяжын трапіў пад гміну Бельск. Новыя ўлады, якія пачалі кіраваць вёскай, змянілі беларускі хор на ўкраінскі — „Родына".

На пачатку дубяжынцы гаварылі, што яны толькі беларусы, цяпер што ўкраінцы. Дойдзе яшчэ да таго, што будуць гаварыць, што яны толькі палякі.

Дубяжын — цяпер вёсачка сярэдняй велічыні. Тут каля 125 дамоў. У вёсцы ёсць святліца, ад нейкага часу закрыты магазін і асяродак здароўя. Маюць у Дубяжыне зрабіць клуб, у якім адбываліся б дыскатэкі і забавы. Школы ў вёсцы ўжо няма. Дзеці даязджаюць вучыцца ў Кнарыды.

Вёска мая нават прыгожая. Навокал многа лясоў, у якіх можна збіраць грыбы і ягады. Жыхары займаюцца пераважна сельскай гаспадаркай. Маладыя людзі даязджаюць у Бельск на працу. Можна сказаць, што людзям тут жывецца добра. Аднак штораз больш з іх уцякае ў горад. Прычына — думаю, усім вядомая.

**Анэта Тамчук**
**Дубяжын**
**II кл. Бельскага беларускага ліцэя**

Сцэнарый дзіцячага дня нараджэння

# „Веснавыя ключыкі"

Запрасіце ў госці да свайго дзіцяці 3—5 яго сяброў. Цяпер прыйдзецца папрацаваць: падрыхтуйце для кожнага запрошанага прыгожы „нагрудны знак" з выявай якогась казачнага героя або звяра і цікавым надпісам: „Пакацігарошак", „Крыважэрны Цмок", „Воўк-Адзінец", „Магутны Зубр", „Асілак Машэка" і інш. Гэта будуць „імёны дружыннікаў". Правадыром „дружыны" прызначаецца той, чый дзень нараджэння святкуецца. Увогуле вазьміце звычай заўсёды рыхтаваць для дзяцей падобныя „сувеніры", няхай самыя нямудрагелістыя, каб яны маглі захаваць іх на памяць пра свята. Знайдзіце сем ключоў, напрыклад, ад шафаў; некалькі слайдаў (малюнкаў) з рэпрадукцыямі вядомых твораў мастацтва (жывёл, кветак). Спатрэбіцца татаў вялікі капялюш, шалік, паднос, „вудачка"-палка, да канца якой на нітцы прывязаная разагнутая сашчэпка-„кручок". Калі тата ці мама крыху ўмеюць маляваць, на лістах паперы малююцца казачныя героі з адтулінамі на месцах твару, каб туды праходзіў твар дзіцяці.

Перад самым прыходам гасцей вазьміце доўгую нітку, канец прывяжыце да дзвярэй ручкі і працягніце гэтую нітку вакол пакоя, выбіраючы „цікавы" маршрут пад крэсламі, над канапай і г.д. Другі канец ніткі прывяжыце да аднаго з падрыхтаваных ключоў і схавайце. Калі маецца магчымасць, накрыйце для дзяцей стол з салодкімі стравамі ў асобным пакоі. Калі не — схавайце святочны торт у шуфлядзе шафы, ці пад любой імправізаванай „завалай".

Калі госці прыйдуць, бацькоў пасадзіце так, каб яны маглі выконваць ролю гледачоў. Прастора пасярод пакоя павінна быць вольная.

**Вядучая:** Дзень добры, дзеці! Сёння мы святкуем дзень нараджэння Веранічкі. Але свята ў нас атрымаецца незвычайнае. Хаця зараз у нас на двары вясна, але злая чараўніца Зіма не захацела адлятаць на поўнач, яна хаваецца пад зямлёй, там, адкуль цякуць халодныя крыніцы, і працягвае нам шкодзіць. Вось яна даведалася, што ў нас сёння вясёлае свята, і для гасцей падрыхтаваны смачны торт, і на ім запаляць свечкі, і замкнула наш торт, як замыкала снегам і лёдам зямлю. Ведаеце, у нас нават ёсць такое веснавое свята — адмыканне зямлі. Людзі станавіліся на пагоркі і гукалі адзін аднаму:

— Іван, дай ключы!
— Мар'я, дай ключы!
— Адамкні зямліцу!
— Выпусці травіцу!

Вось і нам, каб адамкнуць гэтыя дзверы, трэба знайсці сем ключыкаў. А шукаць іх будзеце вы — сёння вы будзеце дружыннікамі, а правадыром дружыны прызначаецца Веранічка.

*Вядучая прапаноўвае дзецям выцягнуць сабе наўгад нагрудны знак і запомніць сваё казачнае імя. Знакі прышпільваюцца.*

**Вядучая:** Вось і першае выпрабаванне. Самы спрытны дружыннік мусіць узяцца за гэты канец ніткі (прывязаны да дзвярэй ручкі) і прайсці-прапаўзці ўздоўж яе да самага канца. Бо гэта не нітка, а чароўная павуцінка, якую пакінуў нам залаты павучок. Дзе павуцінка скончыцца, там Зіма схавала першы ключык.

*Абраны дружыннік выконвае заданне.*

**Вядучая:** Малайчына, Асілак Машэка! Вось наш першы ключык! А цяпер наступнае заданне — пакажам злой чараўніцы Зіме, якія мы разумныя! Яна схавала другі ключык пад адной з карцін сваёй галерэі. Але карціну мы зможам зняць, толькі назваўшы, хто яе намаляваў і як яна называецца. Даваляецца браць падказкі ў бацькоў.

***(працяг будзе)***



Талон „Зоркі" № 13
30.03.1997

# Чорт на вуліцы

**— Zostawcie mnie, chłopaki! Idźcie szybko myć ręce, jestem chory na AIDS!!**

**Гэтыя словы ўратавалі жыццё Ірку Л.**

У той дзень вучні пачатковых школ здавалі экзамены ў сярэднія. Ірак Л., амаль саракагадовы селянін, у той вечар быў у гасцях у цёткі ў Беластоку. Ехаў начаваць да свае швагеркі. У цэнтры горада ўчапіліся да яго шасцёх чатырнаццацігадовых юнцоў.

— Stary, daj na flachę, wypiliśmy wszystko. Musimy dobrze oblać egzaminy!!!

— Я ў вашым узросце зарабляў сам на сваю „фляху" і не жабраў у чужых!

Хлопцы накінуліся на яго, павалілі на зямлю, скакалі па спіне, па галаве. Павалаклі тварам па тратуары. Ірак убачыў нажы. Тады салгаў пра СНІД. Малалеткі хвіліну стаялі як атрупянелыя, пасля кінуліся наўцёкі. Мужчына павалокся на камісарыят паліцыі. У шоку не памятаў, куды яму трэба ехаць, дзе цяпер знаходзіцца.

— Pił obwatel? Walnąłeś się, obywatelu, głową w mur? Leć szybko na pogotowie, bo nie ma jak się z tobą dogadać,— махнуў рукою дзяжурны паліцыянт. Ірак сапраўды не выглядаў найгорш, бо пабіты быў больш пад адзеннем, а кроў з галавы сцякала ў даўгаватыя валасы. Аказалася, аднак, што мае ён адбітую пячонку, нарушаныя страўнік і селязёнку, паламанае рабро. Скура на твары, пацарапаная пяском і плітамі тратуара, праз месяц загаілася. Але праз год Ірак Л. памёр — раны ў жываце не зажылі і лопнулі. Пакуль бацька трох дзяцей даехаў у Беласток, атруціўся ўласнай крывёю.

На вуліцы не менш небяспечна, чым на ўласным доме, сярод знаёмых, сяброў ды нават і сваякоў. Раз-пораз газеты аж захлістваюцца ад сенсацыі: жонка зарэзала мужа, сын пасек на кавалкі бацьку, унучак забіў родную бабулю за 200 злотаў, вучаніцы затаўклі аднакласніцу з цікавасці, як выглядае смерць, малалетак згвалтаваў васьмідзесяцігадовую незнаёмую жанчыну, забілі хлопца ў белы дзень, сярод сотні людзей...

**— Aleśmy mu wlali!**

— хваліліся сёлета ў лютым а восьмай гадзіне вечара на прыпынку ля „Гартэксу" ў Беластоку пяцёра здараненых юнцоў з паненкай. А „вхялі" яны хударляваму незнаёмцу за тое, што не спадабадалася ім ягоная спартыўная шапачка з матузком. Найбольш рагатала іхняя саброўка. Натоўп, чакаючы аўтобусаў, маўчаў. Ніхто нават не рушыўся да тэлефоннага аўтамата, каб пазваць паліцыю. Баяліся, што „ўлеюць" яны кожнаму паасобку? Кожны ж меў свае справы, спяшаўся дахаты, браўся маразок... Чаго яшчэ валачыся на паліцыю як сведка?.. І такія паводзіны сведкаў найбольш разбэшчваюць хуліганаў і бандытаў.

Чалавек тады будзе шкадаваць, што не ішоў з дапамогай патрабуючым, калі яго самога знойдзе бяда, а людзі ўцякаюць, пераходзяць на другі бок вуліцы, каб не бачыць і не чуць, або толькі ўглядаюцца або стаяць адвернутыя плячыма.

Эва Ш. выйшла з блока па вуліцы Вясёлай да бацькі, які жыве амаль цераз плот. Быў лістападаўскі вечар. У пад'ездзе бацькавага пяціпавярховага блока, пакуль Эва ўключыла святло, зачапіў яе невысокі мужчына. Прыціснуў да сцяны, сягнуў да сумкі, а пасля наваліўся на дзяўчыну. Яе страшны крык не вызваў ніякага адзову ў жыхароў — ніхто дзвярэй не адчыніў і не захацеў пабачыць, што тварыцца на першым паверсе. Тады студэнтка кінулася да выхадных дзвярэй, на сцежку перад блокам. Я якраз тады выйшла пабегаць па пасёлку. Спачатку я ўбачыла, што людзі перабягаюць вуліцу на другі бок. Тады ўчула гучны крык:

**Ludzie, pomóżcie!**

Значыць там, каля кветкавага магазіна, тварыцца нешта страшнае, калі вось нават гэты мажны мужык уцякае адтуль! А што там мне зрабіць?! Схапіла я нейкую сухую палачку і пабегла ў той бок. Нават тупатаць не магла ў ціхім спартыўным абутку, каб напалохаць бандытаў. І прыйшла мне ў галаву думка. Я закрычала: „Jurek, Jurek, chodź tu szybko! Łap strzelbę! Biegnij tu zaraz!", хоць ніякага Юркі не было. Гэта спалохала хулігана. Кінуў ён пад кустом дзяўчыну і папёр у цемру. Эва хутка ўстала, і мы нават пабеглі за гвалтаўніком пару метраў, але, на жаль, дзяўчына была абутая ў „шпількі".

— Ой, я к вас ведаю з універсітэта, — аддыхалася студэнтка педагогікі, вядомая мне з твару.

Над намі, у доўгім блоку ва ўсіх вокнах свяцілася, людзі гаманілі, каментавалі здарэнне.

— Ewka, to byłaś ty?! — здзівіўся Эвін бацька, які ўсё бачыў з другога паверха, якраз насупраць здарэння.

Выступіла я як сведка. Паручнік дапытваўся, як выглядаў гвалтаўнік. „Я не бегла, каб яго злавіць і зблізку паглядзець, як ён выглядае, але каб яго напалохаць! Каб нас было больш, маглі б мы яго злавіць, бо часта гэты бандыт дзейнічае ў нашым пасёлку".

Аднак мы яго ўбачылі зблізку. Хлопец невысокі, круглатвары, над высокім ілбом уюцца светлыя валасы. Мая сястра ўбачыла аднойчы вечарам, як з крыкам бягуць па вуліцы тры дзяўчыны. І што штосьці робіцца каля гаражоў. Вядома, спалохалася. Падбегла да пад'езда і закрычала як магла наймацней: „Уцякай, уцякай, мы зараз прыбяжым!" Я якраз памыла галаву, швагер быў прастуджаны. Схапілі мы пусты зялёны буталь ад шампанскага і выбеглі ў сакавіцкі вечар. Нарваліся на таго мужчыну, паабдзіранага, з адарваным рукавом зялёнай курткі. Пачалі мы з ім размову, трасучы нашай „зброяй". Як ён тросся, калаціўся! Збіраўся ўцячы, але мы яго моцна трымалі. Урэшце прабалбатаў: „Ja tylko chodziłem wzywać policję do domu, pobiłem się z ojcem... Ja tu mieszkam..." — паказаў у бок гаражоў (яны агароджаны з другога боку). Сказалі мы, што гэтага не можа быць, бо там дамоў няма, добра гэта ведаем. Усё ж, вырваўся ён нам. Вядома, нарабілі мы яму больш страху, чым чаго, бо амаль на паўгода перанёс сваю дзейнасць у іншыя пасёлкі. Але паліцыя яго дагэтуль на злавіла.

**Хто рэагуе?**

Розныя людзі. Тыя, хто не баіцца. Альбо калі ў большай групе адважных і моцных людзей. Альбо той, хто быў у падобнай бядзе. Або дзівакі, якія не думаюць адразу, чым пагражае такая інтэрвенцыя.

Ішла я ўвечары па вуліцы Варшаўскай на дзяжурства ў друкарню. З-за рэстарана „Гродна" вылез мужчына каля трыццаці гадоў з вялізным кухонным нажом. „Pójdziesz ze mną", — прахрыпеў ён загад перапітым голасам. Спачатку не пакінула мяне адвага. „Ой, схавай гэты багнет, ідзем са мною!" — я зняла пальчатку, пацягнула яго за нос, паляпала па шчацэ. Хуліган, сапраўды, схаваў нажышча ў нагавіцы. Давай я зваць людзей на дапамогу. Народу было шмат — тады ж недалёка быў аўтобусны вакзал. Але што зробіш, калі ўсе перабеглі вуліцу?

— Хэ-хэ, і так ніхто не прыйдзе, я добра ведаю. Вопыт маю, — зарагатаў бандыт. Заўтра ў „Кур'еры" будзе, што ў Бялцы знайшлі твой труп.

З нажом вёў мяне ўсю Юравецкую, аж за мост перад Беласточкам. Каля 75-гадовы дзядуля, высокі і, відна, яшчэ моцны, схапіў яго за каўнер. „Пані, як можна баяцца такога недаростка?!" Не ведаю, чым гэта скончылася, бо амаль сляпая ад ляку пабегла я да брамы друкарні. „А што, калі той д'ябал паласнуў дзядулю нажом?!" — гэтая думка не пакідае мяне ўжо трынаццаць гадоў.

**Міра Лукша**

# Арлянска-гродзенскі абмен

**Беларускі народны калектыў „Арляне", які сёлета адзначае сваё 50-годдзе, ад шасці гадоў падтрымоўвае культурныя сувязі з Гродам, у прыватнасці з калектывам „Праліца". Абодва гурты наведваюцца, абменьваюцца канцэртамі. Аб супрацоўніцтве арлянскіх самадзейнікаў з гродзенцамі расказвае Аліна ПЕТРУЧУК — дырэктар Гміннага асяродка культуры.**

— У днях 28 лютага — 2 сакавіка фальклорны калектыў „Арляне" па запрашэнні Палаца культуры „Юнацтва" пабываў у Гродне. Нагодай для паездкі паслужыў 20-гадовы юбілей калектыву „Праліца", з якім мы супрацоўнічаем. Кожны год прымаем у сябе артыстаў з „Праліцы" і самі гасцюем у іх. Нашы паездкі спансаруе Управа гміны. У апошній удзельнічаў войт гміны Міхал Іванчук.

Дзякуючы прыхільнасці пагранічнікаў і мытнікаў граніцу перасяклі мы хутка, без чакання ў чарзе. Зараз за гранічным шлагбаўмам хлебам і соллю прывітаў нас Мікалай Фадзін, які таксама і ў нас працуе інструктарам. Вечарам першага дня адбыліся юбілейныя святкаванні ў гонар „Праліцы", якая працуе пры Палацы культуры „Юнацтва". Гродзенская публіка вельмі цёпла прыняла і наша выступленне. Пацікавіліся намі таксама мясцовае радыёвяшчанне і тэлебачанне, а вядомая і ў нас радыёжурналістка Іаанна Нямчыноўская ўзяла ў нас інтэрв'ю на беларускай і польскай мовах.



*Выступае „Праліца" з Гродна.*

На другі дзень глядзелі мы горад, наведалі тэатр і музей. На трэці дзень трэба было нам вяртацца дахаты і гаспадары прыгатавалі нам такое развітанне, што аж жаль было ад'язджаць адтуль. Усе мы, беларусы з абодвух бакоў мяжы, адчувалі сябе адной вялікай сям'ёй.

Культурнае супрацоўніцтва з Гродзеншчынай будзем працягваць і ў гэтым годзе. Дзеля гэтага маем сціплае фінансавае забеспячэнне. З гміннага бюджэту на дзейнасць Гміннага асяродка культуры прызначана 26 тысяч зл. На арганізацыю фэстаў і канцэртаў нашага калектыва адводзім з гэтай сумы 3 тысячы зл., а на плату для інструктара з Беларусі — 2 тысячы.

Упершыню прыедзе ў Орлю ў днях 11—13 красавіка дзіцячы калектыў „Весялуха" з Гродна (12 асоб). Узамен у Гродна паедзе 15 нашых дзяцей. На жаль, гэта не будзе калектыў, бо ў школе няма музычнага інструктара. Наша школа забяспечыць беларускіх гасцей абедамі і начлегамі. Я сарганізую ім экскурсію ў Белавежу і канцэрт у тамашнім Дзіцячым доме.


*Аліна Петручук.*

Калектыў „Арляне" атрымаў ад Управы гміны з нагоды Дня жанчын і, мабыць, юбілею па наборы пасцелі для актуальных спявачак. Пасля Вялікадня калектыў узновіць рэпэтыцыі, каб падрыхтавацца да ўдзелу ў беларускіх фэстах у нашым ваяводстве.

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Новыя вершы

Барыс Руско

## Не крышыце

Не крышыце зямлі пазваночнік.
Існуюць:
слова, калі чутнае;
вочы, калі бачныя;
сэрца — калі б'ецца.
Не крышыце зямлі пазваночнік, —
свет
у каменным крыку
застыне, —
чалавекам,
і птушкай,
і дрэвам
у ноч чорную
ўвойдуць цені.

## Хілая любоў

У гарачых словах
гарацъ святыні,
жар паглынае
за храмам храм;
а любоў хілая,
подых нявінны —
і малайчыну
збівае з ног.
Унутры
песня
недаспяваная
ў чаканні хвілі,
успышкі святой;
а любоў хілая,
пахаладзела —
і ў вачах гасне
бляск цеплыні.

## Дарога ў ноч

Лямпачкі, лямпачкі,
смешныя моргаўкі —
іскры ўсмоктвае
ўдых кажана.
Зоркі...
Ды што яны —
кволае воблака
полымя гасіць,
без болю,
без ласкі,
у цішыні.
У грыве вуліцы
калыша́цца лямпачка,
аблеплена хмарай
начных матылькоў.
Не спіцца ўдаве,
на парозе аголеным
усё мужа вітае,
ёй не да сну.
У ноч дарога
доўгая, доўгая —
аж да заранку
нашай зямлі.

## Маладажоны

Рысавы грошы
і букет сонца
на тратуары,
а на стале
ляжыць ужо
слова.
Тады хвіліны
на карце жыцця.
Бясстрасна
цікае
гадзіннік.

## Бясконцасць

Якою меркаю мерыць сусвет?
Кропку ў бяздонні?
І колькі прайсці
вымярэнняў,
каб уведаць:
я
у пачатку
дарогі?
Крылаты розуме,
о як далёка табе
да Праўды!

Івона Марціновіч

## Сон аб Венецыі ўласнай

Закалыханая шчаснай неспадзянкай
падыходзіла я паволі
а
у стомленых зрэнках абуджаліся ўспаміны венецыянскіх палотнаў
калонаў сотні
на іх дванаццаць арак
багатых колерам і золатам
і коні чатыры з бронзы
вышэй малыя вежачкі
выбіваныя з каменя
і святыя анёлы
для гэтых палацаў
сунуць па спакойнай гладзі вады
каналамі чорнымі ад стагоддзяў
гандолы
з дзюбамі прыгожай велічнасці сечаных у метале
плывуць на таямнічы заклік сваіх гнуткіх вясляроў
прыплюшчваю вочы з марай аб золаку
аб Венецыі ўласнай
аб сваёй
найвышэй шэрыя скляпенні ветрам надзьмутыя
а зараз потым
на неба сапфіры шпіль
з ясных прастораў
з П'яцца
між снапы калон
у змрок таямніц золата і мармураў увайшла я...
на апорах аркі трызняць
купаламі вякоў прыкрытыя
змрок доўга трывае
а потым бляск золата кранае сцен
блукае вялікая постаць
блукае малая... сілай візантыйскай лініі ўціснутая ў сцяну сонца
іду...
святыя гасподнія глядзяць...
... краты
амбоны
падсвечнікі тлеюць у цішыні
........................................................................
патрэбаю мэты
духоўным прыказам прыгажосці
ўсё зліваецца ў еднасць
таямніцу мастацтва
несапраўднасць
праўды
абдымае
пранікае як сон
сон аб „Венецыі"
ўласнай.

Мікола Ваўранюк

# Радасць увосень

З Уладзімірам Сіўко з гарадскога пасёлка Любча, на Наваградчыне, пазнаёміўся я праз Нью-Йорк. Жыў я там паўгода па-суседску з яго колішнім сябрам з Беларускай наваградскай гімназіі. Раздзяліў іх лёс, 50 гадоў нічога не ведалі адзін пра аднаго. І вось у Нью-Йорк прыйшоў ліст з Любчы. Сябра адпісаў, але адказу не было. Ведаючы, што ў Беларусі часта робяць шукальнікі міфічных долараў з замежнаю поштай, я ахвотна згадзіўся перадаць карэспандэнцыю, балазе збіраўся дадому. Дзякуючы гэтаму пашчасціла мне пазнаёміцца з незвычайным чалавекам, шчырым беларусам, які за свой патрыятызм многа перацярпеў у жыцці.

Народжанаму ў вёсцы Ачукевічы, каля Любчы, удалося яму здабыць адукацыю ў Беларускай наваградскай гімназіі, якую скончыў у 1933 годзе. Некалькі гадоў не мог знайсці працы, памагаў бацькам на гаспадарцы, пілаваў у купца лес, каб зарабіць на боты ці вопратку. У 1937 годзе быў прызваны ў Польскае войска ў Быдгашч, дзе атрымаў чын: *плютановы падхаронжы*. Удзельнічаў у верасьнёўскай кампаніі 1939 года, быў камандзірам *плютону зваду коловэго*. Пры саветах працаваў настаўнікам беларускай мовы і гісторыі СССР у роднай вёсцы. У час нямецкай акупацыі працаваў у Беларускай народнай самапомачы, а потым служыў у Беларускай краёвай абароне, за што, — як піша ён у лісце, — *савецкія ўлады папраўлялі мяне ў ГУЛАГу 10 гадоў. Здавалася, тым кашмарным дням канца не будзе, але ўсё-ткі прыйшлі і лепшыя, святлейшыя дні.*

Спадар Уладзімір Сіўко аказаўся яшчэ і паэтам. Хаця вершы пачаў пісаць ужо ў гімназіі, неспрыяльныя жыццёвыя ўмовы ўсё не дазвалялі ўсур'ёз заняцца паэзіяй. Толькі апошнімі гадамі друкаваўся ў наваградскай раённай газеце „Новае жыццё" і рэспубліканскіх выданнях. Некалькі яго вершаў з прыемнасцю змясцілі і мы ў „Ніве".

І вось цяпер, у 81-гадовым узросце, спадар Уладзімір нарэшце прычакаў свайго першага зборніка паэзіі „Позьнія кветкі". Аўтар выдаў яго за свой і сваіх найбліжэйшых кошт. Сціплы ён і шэры, сапраўды як позьнія, восеньскія кветкі. Але ўсярэдзіне — поўніцца яркімі, прыгожымі вершамі. Уладзімір Сіўко піша пра родную мову, прыроду, гісторыю. Дае выказацца адвечным пачуццям, такім як каханне. Уваскрашае адышоўшы свет сваёй маладосці.

Віншую Уладзіміра Сіўко з выхадам у свет яго „Позніх кветак". Чытачам прапаную адзін верш са зборніка:

**Настальгія**

По роднай вёсцы я хаджу,
Успамінаю як калісьці
Пасля асенняга дажджу
Было па гразі не прабрысці.

Шчыльней я пліщчыўся к платам,
Шукаў сушэйшую сцяжыну,
За ляскі ўчэпіста хапаў
Хаця б не плюхнуць у каляіну.

Да дзевак вечарам хадзіць
У цемнаце — адна пакута.
Ды што там можа запыніць
Хлапца-гарэзу, баламута.

Свяцілась весела акно,
Дзе сабралісь вечарніцы,
Кудзелю, пачасны лянок
Тут пралі дзеўкі, маладзіцы.

Увесь вечар жарты, песні, смех
Галёкалі ў цеснай хаце.
Паціскаць дзеўку быў не грэх
Супраць наказу роднай маці.

Працягваўся працоўны дзень
На вечарніцы да паўночы.
І ўжо к канцу санлівы цень
Лажыўся хмараю на вочы.

Канчаўся вечар. Спаць пара.
У лямпе выгарала газа.
І кожны да свайго двара
У пацёмках па балоце лазіў.

Згадваю прошлае дарма.
Сэрца ж не хоча пагадзіцца,
Што хлопцаў тых ужо няма.
Няма дзяўчат, ні вечарніцаў.

І хоць на вуліцы асфальт,
А ўздоўж платы, як па шнурочку,
Я ж аглядаюся назад
Ў юнацтва даўнія гадочкі.



*Анатоль Сыс, Уладзімір Сіўко з жонкай у хаце спадарства Сіўко (красавік 1996 г.)*

# НАШЫ КАРАНІ

**XCVIII. Кляшчэлеўскія братчыкі**

Крэпасцямі Праваслаўя на Падляшшы ў XVI і XVII стагоддзях былі не толькі драгічынскія, бельскі, заблудаўскі ці нараўчанскі манастыры. Часта сваю веру праваслаўныя доўга патрапілі бараніць, гуртуючыся ў брацтвах, што дзейнічалі пры цэрквах у мясцовасцях, дзе не было праваслаўнага манастыра. Такім было брацтва Святога Мікалая ў старажытным горадзе Кляшчэлі. Пра гэтую мясцовасць глыбокае і цікавае даследаванне змясцілі ў „Ніве" нашы вядомыя гісторыкі Праваслаўя — свяшчэннік Рыгор і яго сын Аляксандр Сосны. Сёння мне хочацца толькі напомніць пра асноўныя падзеі ў Кляшчэлях. У другой палове XVI стагоддзя ў гэтым мястэчку, а яно было ўласнасцю караля, дзейнічалі два праваслаўныя храмы: святога Юрыя і святога Мікалая. Царквою св. Мікалая апекаваліся кляшчэлеўскія купцы, яны ўтрымоўвалі пры царкве школу і прытулак для ўбогіх. Спакойнае, малітоўнае духовае жыццё праваслаўных парушылі уніяты. Яны ў 1632 годзе пры дапамозе варожа настроенага да праваслаўных гарадскога старасты захапілі абедзве цэрквы. Тады праваслаўныя кляшчэлеўскія купцы, рамеснікі і сяляне аб'ядналіся ў брацтва, устанавілі цесную лучнасць з праваслаўнымі брацтвамі ў Бельску, Брэсце і Вільні ды прыступілі да змагання за вяртанне свае царквы. Праз паслоў на элекцыйным сейме ў 1633 годзе дамагліся ад караля Уладзіслава IV аддачы ім іхняга храма. Але радасць не трывала доўга, бо праз некалькі месяцаў уніяты зноў захапілі Свята-Мікалаеўскую царкву. Аднак кляшчэлеўскія абаронцы Праваслаўя рук не апусцілі: хадзілі ды ездзілі са скаргамі ўсюды і ў выніку каралеўская камісія ў 1636 годзе аддала ім не толькі Свята-Мікалаеўскую, але таксама і Свята-Юр'еўскую цэрквы. Ахвярныя братчыкі адрамантавалі і абнавілі абодва храмы, выдатна ўзбагацілі іконамі, літургічнымі кнігамі і начыннем. Найбольшай пашанай у іх карысталася старажытная ікона Святога Мікалая — нябесная апекуна рамеснікаў, купцоў і сялян. Яна шчасліва захавалася да нашых дзён, цяпер знаходзіцца ў Свята-Успенскай царкве ў Кляшчэлях.

Пятнаццаць гадоў праваслаўныя Кляшчэляў і наваколля спакойна маліліся ў сваіх храмах, вучылі дзяцей у сваёй школе, апекаваліся беднымі ў прытулку. Але настаў 1648 год, год паўстання Хмяльніцкага на Украіне і Беларусі. Уніяцкае духавенства выкарыстала гэтую нагоду, яно беспадстаўна абвінаваціла праваслаўных жыхароў Кляшчэляў у спрыянні паўстанцам і захапіла абедзве праваслаўныя цэрквы. Доўгі час кляшчэлеўцы дабіваліся аддачы сваіх храмаў, але безвынікова. Урэшце пагадзіліся наведваць набажэнствы, якія служыла уніяцкае духавенства, пры тым усё ж утрымалі за сабой права на апеку над Свята-Мікалаеўскай царквой. У ёй яны вельмі доўга захоўвалі праваслаўныя традыцыі, надалей утрымлівалі школу і прытулак. Гэта таксама быў спосаб дзеля нацыянальнага пратрывання.

**Мікола Гайдук**

**Васіль Сакоўскі**

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

*(працяг; пачатак у 18 н-ры за 1996 год)*

Надта ж цікавай і моцна развітой дзялянкай народнай дзейнасці ў час нямецкай акупацыі была вытворчасць забароненай тады самагонкі, якую называлі бімбрам. Самагонку гналі многія (калі не ўсе) і многа, а рабілі яе са збожжа.

Выдатным спецыялістам-самагоншчыкам быў і мой бацька. Працэс самагонаварэння давёў ён да „перфекцыі". І вынікі меў годныя „Кнігі Гінеса".

Рэцэпт на добрую самагонку, як помніцца мне, быў наступны: добрая бочка на рошчыну — значыць найлепей дубовая і ўжываная ўжо, адпаведная мука, дрожджы, датрыманне тэхналагічных тэрмінаў і добрая перагоначная апаратура. Бочку з рошчынай трэба было трымаць у цёплым месцы, значыць у халодны час абавязкова ў хаце, адначасова скрываючы яе ад людскога вока, што зважыўшы па памеры бочкі не было справай простай.

А цяпер наконт апаратуры да прадукцыі самагоначкі-жытнёвачкі.

Найважнейшай і найбольш складанай часткай яе быў халадзільнік. Ён павінен быў быць зроблены з адпаведных труб і трубак, адпаведна выгнутых і зманціраваных адна з другой. Трубкі павінны былі быць з добрага металу і моцныя. Найлепей падыходзілі да гэтага самалётныя. І людзі нейк здабывалі іх.

А рабіў для ўсёй вёскі і аколіцы самагоначную апаратуру мой бацька, які быў паяльшчыкам. Ды так, бывала, адчаканіць, што проста на выстаўку нясі. Прыгожая, моцная і функцыянальная была яна. На жаль, выставак і конкурсаў на такую апаратуру не арганізавалі тады, прызоў і ўзнагарод не давалі за яе, толькі каралі.

Варта было б цяпер направіць гэты прабел і хоць з адзін такі апарацік адшукаць і паставіць на ганаровым месцы ў нашым Беларускім музеі. Ён сімвалізаваў бы там не толькі частку нашай рэчаіснасці, умельства нашых майстроў, але і адну з форм нашага непаслушэнства акупанту, значыць, адну з форм барацьбы з фашызмам.

Тэхналагічны рэжым і добрая апаратура — гэта яшчэ не ўсё. Так зробленую самагонку мой бацька зліваў разам і яшчэ раз пераганяў яе. Потым зноў змешваў, прапускаў праз нейкі фільтр і разліваў у бутэлькі. Атрымалая водка была чыстая, як крышталь і моцная як халера — на градусаў 60. Страсянеш, бывала, а па ёй шарыкі бегаюць...

У 1943 годзе прыехалі ў вёску жандары і ў некалькіх гаспадароў зрабілі вобыскі, у бацькі таксама. І канешне ж ва ўсіх пазнаходзілі самагонку, відаць, добрых інфарматараў мелі. У каго знайшлі бутэльку самагонкі, у каго дзве, а ў майго бацькі аж пяць літраў яго фірменнага азіята.

Усім віноўнікам вызначылі дзень, у які мелі яны з'явіцца ў бельскую камендатуру.

Вобыск, знойдзеная самагонка, прыказ з'явіцца ў камендатуру, страшэнна напужалі майго бацьку. Ён быў перакананы, што ўжо не вернецца адтуль. І меў падставу так думаць. Знайшлі многа самагонкі — гэта раз. Пры саветах быў ён грамадскім актывістам: наглядаў за пабудовай школы; сам многа пры ёй працаваў і іншых да гэтай працы агітаваў, што не ўсім у вёсцы падабалася — гэта два. Не хадзіў у царкву — гэта тры. Па тадышніх вясковых мерках, не хадзілі ў царкву бязбожнікі, а бязбожнік — гэта напэўна камуніст, хаця камуністам ён тады не быў.

Нават палова гэтых правіннасцей гарантавала ўжо месца ў канцлагеры. Думалася нават, што і вобыск быў выкліканы нейкім даносам. Таму яўляцца ў камендатуру быў страх, уцячы і не явіцца — таксама страх, бо сям'ю разваляць. Вось які быў гэта трагічны час.

*(працяг будзе)*

# Радзіма — Родзіна

**Частка LXVII**

Набліжаючыся да канца прэзентацыі выказванняў незнаёмага студэнта з Шымкаў аб Радзіме, які бадай што найбольш востра з усіх маіх размоўцаў атакаваў мяне за мае погляды на радзіму:

„Ведаеце што, пане Баршчэўскі, вы ў сваіх поглядах на радзіму кіруецеся выключна сэрцам, а не розумам. Ці ж вы не разумееце, што эпоха рамантызму ўжо даўно прамінула і болей ніколі ўжо не вернецца? Сёння патрэбны ў трактоўцы гэтай праблемы прагматызм і рацыяналізм. А, вядома, што прагматызм вядзе наперад і ў Еўропу, а не назад і ў беларускі запечак. Вы, пане Баршчэўскі, робіце яшчэ адну вялікую памылку. Вам здаецца, што калі вы будзеце беспынна гаварыць аб роднай зямельцы, аб роднай старонцы, аб роднай мове, то маладое пакаленне беларусаў будзе ўсё болей гарэць нацыянальным пачуццём. Вы не ведаеце моладзі! Калі б вы яе ведалі, дык зналі б, што такая інтэнсіўная патрыятычная прапаганда дае адваротныя ад пажаданых вамі рэзультаты. Вы сваёй нястрымнасцю не толькі не прыцягваеце моладзі да беларускасці, але яе ад гэтай беларускасці адпіхаеце.

Быць можа, што вы глядзіце на мяне як на рэнегата. Няхай сабе будзе і так. Я вам скажу, што я не заўсёды ў польскім асяроддзі прызнаюся да сваіх беларускіх карэнняў. Бывае, што прызнаюся да праваслаўя, але прадстаўляю сябе як праваслаўнага паляка, а ў гэтай справе маю благаславенства праваслаўных царкоўных іерархаў у Польшчы. А бывае і так, што не прызнаюся ні да беларускасці, ні да праваслаўя. Залежыць гэта ад таго, якім духам дыхаюць тыя палякі, сярод якіх даводзіцца мне быць. І ў гэтым, па-мойму, выяўляецца мой прагматызм. Думаю, што няма сэнсу лезці без патрэбы на ражон. Зрэшты, няма чым перайманца. Я ведаю, што таксама паступаюць і палякі на Захадзе. Не заўсёды яны прызнаюцца да польскасці. А не прызнаюцца ў тых асяроддзях, якія варожа адносяцца да Польшчы і палякаў. І гэта, па-мойму, таксама прагматызм.

Я думаю, што ў гэтай справе нацыянальныя маніфестацыі нікому не патрэбныя. І ў гэтым сэнсе я вас, пане Баршчэўскі, не разумею. Я ведаю, што вы ў Варшаве і ва універсітэце ўсё дэманструеце сваю беларускасць. Я ведаю гэта ад чалавека, які вас добра знае, бо таксама працуе ў Варшаўскім універсітэце. Ведаю і аб тым, што вас „Салідарнасць" у мінулыя гады добра пашарпала, але хіба не адвучыла ад беларускасці.

Я, зразумела, пане Баршчэўскі, для вас не суддзя, аднак лічу, што маю права сказаць тое ўсё, аб чым думаю. Я ведаю, што вы больш бачылі чым я, бо даўжэй жывяце на свеце. Аднак з гэтага нішто не вынікае, бо вы ведаеце сваё, а я ведаю сваё. Вы адказваеце за сваё жыццё, а я адказваю за сваё.

Можа вас здзіўляе тое, што я так многа гавару. Ну, але гэта звязана і з маімі псіхічнымі схільнасцямі і з тою прафесіяй, да якой рыхтуюся ў вучэльні.

А ўвогуле то я вам скажу, што вы пастанавілі аставацца ў беларускім запечку, а я пастанавіў ісці ў Еўропу і стаць грамадзянінам свету. Ну, не скажу, каб мяне не ўзрушала і мая вёска, і яе аколіцы, і нашы святы. Але ж нельга ўсё жыццё жыць толькі дзіцячай узрушанасцю і традыцыйнымі прывязанасцямі.

Вядома, пане Баршчэўскі, што няма адной праўды для ўсіх. Вы маеце сваю праўду, а я маю сваю праўду. Па-мойму, ваша праўда моцна ўстарэла, яна архаічная, яна накіравана ў мінулае. Мая праўда маладая, сучасная і яна вядзе ў будучае.

Прабачце, што я так многа гаварыў, але вы самі гэтага хацелі. Ну, дык я вам тут і выклаў свае погляды на радзіму. Вы, напэўна, гэтага не надрукуеце, але можа калі-небудзь недзе выкарыстаеце. Вось ужо і Юшкаў Груд, ваша малая айчына, дык да пабачэння".

**Алесь Барскі**

# Пацукі

Пацукі — інтэлігентныя звяры. Так гавораць навукоўцы. Можа і так, аднак небяспечныя яны.

Не раз я ўжо чытала аб пацуках у розных часопісах. Здавалася б неверагодным, але пацукі могуць праціснуцца праз трубу дыяметрам у паўтара сантыметра!

Ёсць іх тры гатункі. Найбольшыя, гэта рыжыя пацукі з белай рыскай на спіне. У нас найбольш распаўсюджаны пацукі шэрыя.

Пра тое, што пацукі небяспечныя, пераканаліся мая пакойная бабуля і пакойная ўжо сяброўка з працы.

Быў у нас стары дом. Збудаваны так, як калісь будавалі: кухня, хата (так калісь называлі пакой) і камора. У каморы стаяла маленькая шафка. На верхняй полцы бабуля трымала ў драўлянай місцы гусінае сала, якога ўжывала для змазкі калаўротка і сячкарні.

Аднойчы пайшла яна па сала, адкрыла шафку. Выскачыў вялікі пацук. У каморы не было святла і бабуля не згледзела, куды ён пабег. У шафцы была вялікая дзірка. Бабуля ўзяла дошачку, цвікі і малаток і забіла дзірку. Закрыла шафку і ўжо збіралася выйсці, калі ўбачыла пацука. Кінула ў яго малатком. Пацук выскачыў і ўкусіў бабулю ў руку. Пасля выбег у сені і адтуль на двор.

Пасля рабіў шкоду ў клуні і склепе, з'ядаючы бульбу і агародніну. Хітры быў, ніякай труткі не чапаў. Калі клалі яму атруту, ён нагрэбаў туды пясок і на пяску пакідаў свае адходы.

Аднойчы і я яго ўбачыла. Бег ад суседавага плота, выглядаў як малы кот. Я перапалохалася і чым хутчэй пабегла дадому.

Два месяцы пасля таго здарэння ўбачыла яго здохлага за хлявом; кончыўся, мусіць, ад старасці.

Мая сяброўка жыла ў старым будынку. Ёй пацук таксама не даваў спакою, выдзіраў дзірку ў падлозе. Калі сыпала атруту і забівала дзірку, ён перагрызаў яе ў другім месцы. Не раз кусаў сяброўку і яе дзяцей і яна вымушана была ставіць вечарам ежу каля дзіркі. Калі ежы не паставіла, або паставіла атруту, ён кусаў сямейнікаў. Была шчаслівая, калі атрымала кватэру ў блёку.

Маладога пацука можна падмануць, але старога, які пражыў ужо два гады, не правядзеш; ён мудрэйшы за чалавека. Калі бароніцца, можа нават выдзерці вочы.

**Аўрора**

# Позірк у мінулае

**30 сакавіка**

649 г. — памёр Іаан Лесвічнік, аўтар „Лесвіцы ў Рай". Народжаны каля паловы VI ст. у Палесціне, маючы 16 гадоў уступіў у манастыр на Сінайскай гары і пасля чатырох гадоў перайшоў у пячору ў падножжа Сіная, дзе праз 40 гадоў жыў адзінока. Нейкі толькі час быў ігуменам свайго першага манастыра, але пасля некалькіх гадоў вярнуўся ў сваю пустэльню. Сваю „Лесвіцу ў Рай" напісаў пад уплывам відзежы лесвіцы з Якавага сну. У творы заключаны парады для манахаў, як дасягаць рэлігійнай чысціні, да якое трэба дабірацца па ступеньках, як па лесвіцы. Мэтай кнігі была дапамога манахам у дасяганні вышэйшых ступеней хрысціянскага аскетызму. Аўтар асаблівую ўвагу прысвячае барацьбе з самім сабою. Кніга карысталася шырокай вядомасцю не толькі сярод духавенства, але і вернікаў, і была перакладзена на многія мовы.

**31 сакавіка**

1461 г. — памёр мітрапаліт Іона. Іона ўжо ва ўзросце 12 гадоў прыняў манаскі пострыг і пільна прытрымоўваўся посту і малітвы, дэталёва вывучаючы Свяшчэнае Пісанне. За вялікія веды і стрыманыя паводзіны быў ён назначаны епіскапам у Разані, а пасля смерці маскоўскага мітрапаліта Фоція быў ён пастырамі і вялікім князем назначаны загадчыкам справамі мітраполіі. Аднак, каб заняць пасад мітрапаліта, яму прыйшлося змагацца з многімі перашкодамі. У той час у маскоўскай дзяржаве адбываліся міжусобныя войны і ў іх ходзе ў 1446 г. князь Дзмітрый Шамяка зверг з маскоўскага трону вялікага князя Васілія II і асляпіў яго. Іона стаў у абарону законнага князя і пасля вяртання на трон Васілій адной з першых сваіх задач палічыў упарадкаванне царкоўных спраў. У той час мітрапаліяй кіраваў Ісідар, удзельнік Ферара-фларэнцкага усяленскага сабора, на якім 6 ліпеня 1439 г. была падпісана Фларэнцкая унія, якая насільна падпарадкоўвала Усходнюю царкву рымскаму папе. Удзельнікі сабора, у іх ліку канстанцінопальскі патрыярх Іосіф і 6 мітрапалітаў, якія не згадзіліся на унію, былі забіты. Ісідар, балгарын па нацыянальнасці, быў прыхільнікам уніі. Вялікі князь Васілій II Цёмны пазбавіў Ісідара сану і назначыў Іону мітрапалітам кіеўскім і ўсяе Русі. Іона часта бываў у Вялікім княстве Літоўскім, намагаючыся яднаць праваслаўных, аднак пасля ягонай смерці мітраполія распалася на дзве: Кіеўскую і Маскоўскую.

**4 красавіка**

636 г. — памёр Ісідар Севільскі, іспанскі святар і энцыклапедыст. Народжаны каля 560 года Ісідар стаў у 600 г. на севільскую арцыбіскупскую кафедру. Ісідар меў вялікі ўплыў на падзеі ў тагачаснай Іспаніі, даводзячы м.інш. да пагаднення прававерных рымлян з прывержэнцамі арыянства — готамі. Спрыяў асвеце і культуры, заахвочваў свяшчэнства да навукі. Пакінуў на эпоху Сярэдневякоўя духовае багацце ранейшых эпох. Быў ён хутчэй перапісчыкам, чым мысліцелем. Яго энцыклапедычныя творы ахаплівалі ўсе тадышнія веды і сталі іх крыніцай для пазнейшых вучоных. Найбольш вядомым яго творам стала *Этымалогія* — даведнік па класічнай навуцы. Напісаў таксама *Гісторыю панавання готаў, вандалаў і свеваў*, якая была важным запісам падзей яго эпохі. За працы на біблейныя і тэалагічныя тэмы лічыцца адным з айцоў Касцёла. Кананізаваны ў 1598 г. **(Ш)**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне, нядобры сон мне прысніўся. А што ён можа дакладна абазначаць, мо ты мне растлумачыш.

Быццам я знаходжуся ў водпуску. Стаіць дом адпачынку, але і не каля мора, і не ў гарах. Навокал нейкія насыпы, пясок, брудна, мокра.

Мне хочацца ў туалет. Але дзе ён? Сядаю проста перад гэтым домам адпачынку на начны гаршчок. Раблю, не саромячыся нікога, быццам знаходжуся ва ўласным туалеце. Устаў я, нават не падцёршыся. Гляджу: калошыны маіх джынсаў усе ў балоце, бо ж я хадзіў па гразі. Задзіраю адну калошыну і бачу, што ў мяне на нагах гумоўцы, яны забрудждняы граззю, а ад іх і штаны забрудзіліся.

І вось я ўжо некуды іду. Насустрач мне ідзе дзяўчына, якая мне вельмі падабаецца. Яна падышла да мяне, і мы далікатна пацалаваліся. Адчуваю да сёння смак яе вуснаў.

Тады ідзем з ёю за дом адпачынку. Гэта дачка ўласніцы гэтага дома. Але ззаду ўсюды ляжаць звалы зямлі. Мы сядаем у нейкую машыну — вялізную, як камбайн. Я — з нейкім мужчынам сядаю ззаду, дзяўчына — спераду, вядзе гэту машыну другі мужчына. Раптам ён разагнаўся, ды як не трэсне ў сцяну!

Выпадак. Шкада машыны. Ужо ж мы разбілі сёння трэцюю...

**Толік**

Толік! І тое бруднае, неўпарадкаванае наваколле, якое табе снілася, і тое, што ты рабіў у гаршчок на вачах людзей, і тое, што вы разбілі машыны, сведчыць аб нейкіх брудных, непрыемных справах, якія чакаюць цябе ў недалёкай будучыні. І нават тое, што вы з той прыемнай дзяўчынай пацалаваліся, гаворыць за тое, што пагражаюць табе фальшывыя, прадажныя нібы сябры.

**Астрон**

**Наша пошта**

# У нас восень

У нас цяпер восень, але вельмі цёпла і духата. Я з двума сваімі сынамі, што жывуць блізка мяне ў Сіднеі, ездзілі за дзвесце кіламетраў у сасновы лес збіраць грыбы — рыжыкі і маслякі. Цяпер сезон, грыбоў многа, але толькі рыжыкаў, бо маслякоў мала. Грыбы прыйшлі сюды з Еўропы пры насаджэнні тут сасновага лесу. Бярозкі, дубы і елачкі растуць каля хатаў толькі як дэкарацыя. Аўстралійскі еўкаліптавы лес грыбоў аніякіх не мае. Шампіньёны растуць толькі на полі (калі спрыяюць кліматычныя ўмовы) і гадуюць іх на спецыяльных фермах.

Ні баравікоў, ні сыраежак, апенек і іншых беларускіх грыбоў тут не спаткаеце, акрамя рыжыкаў і маслякоў. Сасновы лес напамінае мне тут Беларусь і маё дзяцінства і юнацтва. Вельмі свежае паветра і пахне смалой і ігліцай!

**Сымон ШАЎЦОЎ**
**Аўстралія**



*А ў нас вясна!* Фота Міхала МІНЦЭВІЧА

# Крыжаванка

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | ■ | 2 | ■ | 3 | ■ | 4 | | 5 | | 6 | |
| 7 | | | | | | | ■ | | ■ | | ■ |
| | ■ | | ■ | | ■ | 8 | | | | | |
| 9 | | | | | | | ■ | | ■ | | ■ |
| | ■ | | ■ | | ■ | 10 | 11 | | 12 | | 13 |
| 14 | 15 | | 16 | | 17 | ■ | | ■ | | ■ | |
| ■ | | ■ | | ■ | 18 | | | | | | |
| 19 | | | | | | ■ | | ■ | | ■ | |
| ■ | | ■ | | ■ | 20 | | | | | | |
| 21 | | | | | | ■ | | ■ | | ■ | |

**Гарызантальна:** 4. паэтычная гара ў Грэцыі, 7. пустыня ў Чылі, 8. маса лёду на схіле гары, 9. горад на Кіпры, 10. прыстасаванне для чысткі, змятання, 14. пасвіць статак, 18. прозвішча папы Іаана Паўла II, 19. белая пажыўная вадкасць, 20. прыстасаванне, якое свішча, 21. тайна.

**Вертыкальна:** 1. ілжывае абвінавачанне, 2. запытанне, запатрабаванне, 3. трапічная птушка сямейства буслоў, 4. халодная зброя падобная на шаблю, 5. тоўстае палатно, 6. злучэнне азоту з вадародам, 11. пасудзіна для заварвання чаю, 12. лік, 13. пісьмовая прылада, ручка, 15. нападзенне, 16. будынак са сцэнай і глядзельнай залай, 17. за чортавымі капытамі. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 6 н-ра:**

**Гарызантальна:** Парана, Амерыка, субота, гадзіна, Данчык, свіран, юстыцыя, грэлка, Нескенс, Парнас.

**Вертыкальна:** саўгас, Вердзі, жывіца, пасад, рубін, нетры, артыст, чацвер, клякса, Варна, Ралан, нюанс.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свябодзіц і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

# Парнасік

**Згода — новае зерне**

Як будзем сварыцца,
Скора будзем біцца,
Калі не каламі,
Дык брыдкімі словамі.
Гэта таксама балюча
І на сэрцы „ванюча".
Абразіць — гэта боль,
Што не хапае слоў.
Прывыклі супярэчыць
І лаянкай раны лечыць.
Кожны думае што ён правы
І шукае адпаведнай славы.
Сёння ўсе нервовыя
І быццам людзі „новыя".
Ахапіў іх транс
І маем свой баланс:
Лаяць дзяржаву, урад
І ўсё кругом *падрад*.
Цяжка ўсім дагадзіць,
А трэба з усімі ў згодзе жыць.
Помню, як Берута лаялі,
А Гамулку пасля славілі —
Ён калгасы ўмомант разваліў;
Дух дзейнасці ў Польшчы ажыў.
Пасля былі Герэк, Каня, Ярузэльскі —
Лаяў іх народ сельскі,
Інтэлігенцыя і рабочы клас
У адзін бас.
Настаў Валэнса, дэмакратыя і свабода,
Гэта добрая работа.
Ды трэба выкарыстаць умела:
Старое далоў, каб новае зерне даспела.
Але камунізм у нас прытаіўся
І дух нянавісці прыжыўся,
Людзі забылі каго праклыналі
І каго праслаўлялі.
А трэба жыць *прынцыпіяльна*,
У любві і маральна,
Не лаяць, не праклінаць,
А добры прыклад даваць:
Па-хрысціянску
І па-славянску.

**Мікалай ПАНФІЛЮК**

* * *

**Дзядзька і Унія**

Ішоў дзядзька па вуліцы
І зайшоў да Уніі.
Яго там не прынялі:
— Ідзі адкуль прыйшоў сюды.
Ідзі назад да свае хаты
Папрацуй і стань багатым,
Тады будзем вас прымаць,
Як перастанеце страйкаваць.
Ты зрабі парадак у хаце,
Аб гэтым людзі хочуць знаці,
Ды з суседам не сварыся —
Са сваіх рук ты разжывіся.
Ты не будзь такі зайздросны
Цягнуць грошы з усяе зоны.
Перастань ты руку выцягаць
І ва ўсім свеце жабраваць.
Вакол сябе разгляніся,
Што там робяць падзівіся,
Як дзяржаву абкрадаюць —
Усе аб гэтым добра знаюць.
Ты паедзеш караванам
Ад Марціна да Сцяпана.
Цябе людзі ахраняюць,
Едзеш, а нас з дарогі зганяюць.
Ты за моцна ўжо разжыўся,
Хаця і Богу не маліўся.
Усіх цягнеш за сабою
З сваякоў, хто ёсць здаровы.
Ты яшчэ раз разгляніся,
Вакол сябе падзівіся.
Не ўмееш парадак трымаці,
Сядзь спакойна ў сваёй хаці.
Не вучы людзей страйкаваць,
Будуць лепей працаваць.
Калі лепей разжывуцца,
Хутчэй ва Уніі апынуцца.

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**



**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранові́ч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1997 r. upływa 5 marca 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Пародыі

**Паэтычны эгацэнтрызм**

*Што мне Ньютоны, што Галілеі...*

*Сам для сябе я мэтай і стартам,*
*Сам для сябе я пілот і ракета...*

***Ян Чыквін***

Што мне Ньютоны, што Галілеі,
Я і сам — непаўторны.
Ад думкі гэтай я часта млею:
Сціхаюць флейты і валторны.
Я, нібы пілот у ракеце,
Сам для сябе здарэнні шукаю.
Я, адзіны ў цэлым свеце,
Зноў з мора пагоды чакаю.
Камбінезон апранаю ранкам,
Плюхаю цэлы дзень па алеі.
Сам для сябе я пяю калыханку:
„І што мне Ньютоны,
І што Галілеі..."

**Сяргей Чыгрын**

# Сентэнцыі Надзеі Руско

* Золата — як балота, да рук клеіцца.

* Як хочаш пабачыць уночы, пазыч у ката вочы.

* Хто гарэлку папівае, у сябе гадоў адбірае.

* Як сыч пад вакно прылятае, смерць запрашае.

* Ліпа добрая такая, ад басоты людзей выбаўляе.



*Малюнак Я. БУСЛА*

# Ніўка



*Малюнак Ю. РЫЖЫКАВА*

# Даўней бывала

**Лучына**

Гэта было пасля вызвалення, калі яшчэ людзі, нават у гарадах, палілі дровамі і лучынай распальвалі. Тады лучыну, павязаную ў пучкі, вазілі ў горад. Адна гарадская жыдоўка выправіла мужыка, каб той купіў лучыну на распалку. Той падаўся на рынак, ходзіць і разглядаецца па вазах, дзе б лучына была. Адзін мужчына меў на возе альховыя плашкі і жыд падумаў, што гэта і будзе лучына. Купіў жыд тую альшыну, прывалок дадому і гаворыць жонцы, што лучыну купіў. Тая глянула і кажа:

— Гэта ж не лучына, толькі альшына.

— Вось дурны мужык — кажа жыд, — прадаў альшыну замеж лучыны!

— Дурны не мужык, толькі ты, — крыкнула жыдоўка, — што купіў лучыну, а не альшыну!

**Сала**

Калісь не было такое механізацыі, як цяпер, і людзі тады косамі касілі, сярпамі жалі і цапамі малацілі. Адной удаве трэба было скасіць лонку і яна наняла цыганоў. Паклала ў кошык добры абед, завяла іх на сенажаць, паказала, дзе трава, і кажа:

— Я больш да вас прыходзіць не буду — есці вам хопіць.

Цыганам толькі гэтага і трэба было. Выкасілі навокал сябе, палягалі, праляжалі да абеду, добра паабедалі і кажуць сабе:

— Паесўшы, трэба паляжаць, каб сала завязалася.

Як тое сала пачало завязвацца, ды і сонейка ўжо да заходу схілілася. Тады касцы ўсталі, косы на плечы пазакідалі дый падаліся да гаспадыні дахаты.

— Выкасілі? — пытае гаспадыня.

— Выкасілі, гаспадынька! — адказалі яны.

Яна ім заплаціла, а яны яшчэ сала хочуць. Гаспадыня кажа, што сала не мае, а яны настойваюць, каб дала.

— Дала б вам сала, але сама яго не маю, — тлумачыцца.

— Калі не дасі сала, то каб табе ўся трава ўстала. Толькі каб там не ўстала, дзе Божы дар спажывалі, — сказалі яны і пайшлі.

Жанчына на другі ці трэці дзень пайшла тую траву з пакосаў растрасаць. Глядзіць, а тая трава як стаяла, так і стаіць. Забедавала жанчына:

— Ах! Каб я ж была знала, дык пазычыла б і дала б таго сала, а так другі раз мушу касцоў наймаць.

**Аляксандр Барташэвіч**

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Размаўляюць дзве сяброўкі:

— У мяне вельмі скупы муж; мушу перад ім тлумачыцца з кожнай выдадзенай залатоўкі...

— А не прабавала ты паўплываць на яго вадалеем?

— ???

— Калі муж спытае пра грошы, ты адразу плач!

* * *

— Мая жонка падазравае мяне, што я — каханак яе прыгожай сяброўкі; мне тады вельмі прыкра...

— Таму, што падазравае?

— Не, што гэта няпраўда.

* * *

Жонка вітае мужа, які вяртаецца дадому на досвітку:

— Ну і што?! Усюды добра, аднак дома найлепей?

— Не зусім, гэта цяпер адзінае адкрытае месца.

* * *

— Хіба развядуся са сваёй жонкаю: яе паводзіны робяцца невыноснымі. Апошнім часам пачала мяне будзіць рэпрэсіўна...

— Б'е па твары, аблівае халоднаю вадою?..

— Горш, укідае пад коўдру ката!

— І гэта цябе нервуе?

— Так, бо я сплю з сабакам.

* * *

— Здароў, сябар! Ці пайшло табе ў карысць сужонства?

— Цудоўна! Адчуваю сябе памаладзеўшым.

— Чаму ж гэта?

— Бо зноў, як у школе, мушу цішком піць гарэлку і курыць папяросы.

* * *

Матрос канчае пісаць ліст нарачонай: „Вельмі перапрашаю за арфаграфічныя памылкі, бо калі табе пісаў, карабель вельмі калыхаўся".

* * *

Жонка папракае мужа:

— Зноў выбіраешся з сябрамі ў рэстаран, а ведаеш жа сам, што ў надыходзячым тыдні мусім заплаціць чарговую рату за мэблю...

— Ну, добра, дарагая, я да таго часу напэўна вярнуся; ты толькі пастарайся сабраць тыя грошы.

# Сардэчныя ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Я працую на вельмі вялікім прадпрыемстве ў Беластоку, але не напішу тут, як яно называецца, бо некаторыя сяброўкі чытаюць „Ніву" (ад „Сардэчных тайнаў" пачынаюць) і зараз жа маглі б здагадацца.

Летам мы выбраліся на экскурсію ад нашай фабрыкі. Ехалі далёка — аж у Шчэцін — аўтобусам. Выехаўшы пад вечар, вандравалі цэлую ноч. Нельга было б сказаць, што мы надта стаміліся: у аўтобусе было даволі весела, хто хацеў — спаў, хто хацеў — выпіваў. Асабліва весела было, як заўсёды, ззаду. Там паселі найбольш „кампанійныя" людзі. Сеў там і хлопец, які мне вельмі падабаўся. Я туды не лезла, а села з сяброўкай бліжэй да шафёра. Я ведаю, а мо яны там селі цэлай сваёй кампаніяй... Але краем вока, не-не, ды мы туды спаглядалі.

Праз нейкі момант я заўважыла, што некаторым хлопцам дзяўчаты пасядалі на калені. Мне было вельмі прыкра: той хлопец, які мне так падабаўся, аж пачырванеў ад натугі, калі немаладая ўжо „падарожніца" ўзгрувасцілася на яго. Пачала яго заахвочваць: „Не бойся, мы не кацапы. Мыемся і кахацца патрапім!" Мяне аж халера брала ад такой несправядлівасці. Як кацапы, дык ужо і брудныя, так?! І нават кахацца не ўмеем?! А хлопец той, быццам дэбіл нейкі, адно ёй патакваў. А што яму было рабіць, калі ўжо рука тае бабы шарыла па яго распорку, а яго таксама распірала. Мне стала вельмі прыкра, калі я ўбачыла яе размераныя рухі на яго каленях: уверх-уніз, уверх-уніз. У гэты момант я зразумела, што няма граніц для ахвотных. Цалаваліся ў засос увесь час. Калі ўрэшце адпалі адно ад другога, быццам клапы, што напіліся да адвалу чалавечай крыві, мне ўсё стала ясна. Ага, дык гэта ён такі сабака! А не хадзіў жа з той бабай...

У панурым настроі я задрамала і не заўважыла, калі мы даехалі да таго Шчэціна. Раніцай усё бачыш у ясных, ружовых колерах. Мне ўжо нават пачало здавацца, што ўсё тое, што бачыла ўначы, было толькі сонным кашмарам. Хлопец, нягледзячы на ўсё, узбуджаў мяне яшчэ больш. Ну, думаю, баба, трымайся! Не будзеш трапаць языком, што сліна прынясе. У аўтобусе — у той момант — мо ты была яму і найпякнейшая. Пабачым, аднак, што ён скажа пры дзённым святле, калі ўсе твае маршчыны наверх павылазяць!

Ну, і пэўна! Удзень я яму спадабалася больш за тую панечку. Я была шчаслівая — ад хлопца, ад сонца, ад экскурсіі. Усюды, дзе мы не былі, ён не адыходзіў ад мяне. Сяброўкі нават пачалі мне зайздросціць. Хлопец у адносінах да мяне быў даволі далікатны. Не дазваляў сабе на штосьці такое, як тое, што рабіў у аўтобусе.

А гэта яшчэ больш узбуджала маё ўяўленне. А што, я горшая? Пэўна, думае, што не мыюся і кахацца не ўмею. Зараз-зараз, але ці ж ведае ён, што я хаджу ў царкву, а не ў касцёл?! Ну, не, адкуль жа ён бы ведаў. Я ж з ім бліжэй не была знаёмая...

Час ляцеў маланкава. Я баялася, што як вернемся дахаты, то ён нават не будзе мець нагоды, каб глянуць на мяне. Таму спяшалася. Папрасіла я сяброўку, з якой жыла ў адным пакоі, каб вечарам выйшла кудысьці, і запрасіла яго да сябе. Адразу скажу шчыра: я рабіла ўсё, што магла — і так, і сяк, і гэтак. А ён не мог нічога. Толькі сказаў: „А казалі, што кацапкі — брудныя і не ўмеюць кахацца...", але ад гэтага яго „габарыты", як ты пішаш, не змяніліся.

Расчараваная, я больш да сябе яго не запрашала. Калі ж мы вярнуліся з экскурсіі дадому, сустракацца з ім я больш не хацела. Цяпер я адна, але хацела б мець хлопца, якога палюблю. Не буду займацца абы-кім. Толькі думаю: як гэта яны тады так кахаліся ў аўтобусе?

**Данута**

Данута! Тое, што яны прадэманстравалі ў аўтобусе, было для хлопца значна прасцейшым, чым сустрэча з табой. Там яны кахаліся, бадай, праз вопратку і тая дзяўчына, відаць, не заўважыла яго мізэрных „валёраў". Пры зносінах з табою наступіла канфрантацыя і трэба было нешта паказаць. А што пакажаш, калі няма чым пахваліцца! Вось з гэтага і выйшаў той канфуз, бо ты яго прыперла да сцяны. А мо каб у аўтобусе і ты была б прысела яму на калені — усё было б „хакей"!

**Сэрцайка**